«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (230), кастрычнік 2025 года



# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 10 (230) (кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест



**ЗГАДКІ**

# Клякса



Генадзь МІШЧУК

Старая груша на ўзмежку ўпарта змагалася за жыццё. Наскрозь трухлявы ствол невядома як трымаў карчакаватую верхавіну, якая штовясны, няйначай, цуд, пакрывалася маладой лістотай. Прымаладзіўшыся, напачатку мая дрэва патанала ў буйной квецені. З самага ранку і да позняга вечару, калі гэтаму спрыяла надвор'е, над ёй гулі пчолы і калматыя чмялі, увішна збіраючы салодкі нектар і жоўты пылок з духмяных кветак.

У сярэдзіне жніўня старое дрэва пладаносіла, адорваючы гаспадароў салодкім пачастункам. Грушы былі вялікімі і сакавітымі, але хутка пераспявалі. Падаючы на зямлю, разбіваліся, ператвараючыся ў густое салодкае месіва, якое прываблівала цэлыя зграі восаў. Яны шалелі ад свайго балявання і пякуча джалілі кожнага небараку, які рызыкаваў наблізіцца да старога дрэва.

Аддаўшы апошнія сілы, яно зноў чэзла на вачах. Ствол рыпеў і трашчаў ад восеньскіх пранізлівых вятроў, ад зімовых студзёных завеяў. Ды груша працягвала ўпарта змагацца за жыццё і чакала чарговай вясны.

Кожнай раніцы дзядзька Іван, цяжка абапіраючыся на дзве таўсматыя кульбы, выходзіў на веранду сваёй хаты. Хворыя ногі кепска слухаліся гаспадара, якому гэты шторанкавы шпацыр даваўся вельмі цяжка, і ў дадатак — боль кожны раз пранізваў цела. Дабраўшыся да спецыяльна змайстраванага высокага зэдліка, дзядзька Іван грузна апускаўся, прыстаўляў да сцяны кульбы і раскурваў цыгарэту. Ад першай зацяжкі ён заходзіўся сухім кашлем, які гучна разносіўся па падворку, але, нягледзячы на гэта, шкоднай звычкі стары кідаць не збіраўся.

Шэрымі выцвілымі вачыма ён глядзеў праз расчыненыя дзверы веранды на зубчатую сцяну лесу, што падступаў да яго сядзібы, а затым кідаў доўгі позірк на пляменнікаў узмежак, дзе расла старая бутлая груша. Выпускаючы клубы шэрага тытунёвага дыму, дзядзька Іван чакаў, каб хто-небудзь завітаў на яго падворак. Адзінокім ён не быў, хоць пасля смерці жонкі, з якой пражыў амаль паўвеку, адчуваў сябе самотна. Упоруч жылі дзеці і ўнукі, нярэдка наведваліся госці-суседзі, аднавяскоўцы, неабыякавыя да яго чалавечага лёсу. Усё жыццё дзядзька дапамагаў людзям, і тыя памяталі яго дабрыню і спагаду.

Сёння ён надта прыдзірліва аглядаў старую грушу і, калі на суседскім падворку заўважыў пляменніка, зычна гукнуў яму: «Зайдзі!». Той не прымусіў сябе доўга чакаць. Хуткай хадою напраўцкі скіраваўся да дзядзькавага плоту і спрытна пералез праз яго.

— Здароў, дзядзька! Здарылася што? — занепакоена спытаў малады чалавек.

— Вось што, — нетаропка загаварыў дзядзька Іван, працягваючы для прывітання руку. — Не магу глядзець, як гэтае дрэва мучыцца. Спілуй яго, а на тое месца пасадзі падвой з майго садка. Выбірай любы...

Пляменнік, захоплены знянацку нечаканай просьбай, крутануў галавой:

— Не, не змагу. І не прасіце, дзядзька Іван. Хай жыве, колькі ёй наканавана. Самі ж казалі, што з дзяцінства яе памятаеце.

Прыйшла чарга сумецца старому:

— Так, казаў... На яе галінах яшчэ калыска з тваім бацькам гайдалася. А вакол жыта каласілася, і наша маці яго жала. Царства ім нябеснае... Абоім...

Дзядзька цяжка ўздыхнуў і глыбока зацягнуўся.

Пражытае жыццё, бы міраж, паўстала перад яго вачыма. Постаць старой замшэлай грушы вяртала яго назад, у пару дзяцінства, якое, хоць было апаленае вайной, але ж было дзяцінствам: з цёплымі матулінымі рукамі, з бацькавай навукай гаспадарыць, каб мець свой кавалак хлеба; з сябрамі, з якімі гойсаў у вольную часіну па мясцовых лясах і ўзлесках; дзяцінства, якое светлым успамінам назаўсёды застанецца ў памяці кожнага чалавека. А пара юнацтва, пара маладосці, пара першага і адзінага, як у яго, кахання. Каханне на ўсё жыццё...

Здаецца, устань, дайдзі да ўзмежка, дакраніся да шурпатай кары дрэва — і ўсё вернецца назад, усё пачнецца спачатку. А ці змяніў бы ён што ў сваім жыцці, калі б выпала такая нагода і Усемагутны даў бы яму яшчэ адзін шанец: пачаць усё спачатку? Бадай, нічога. Жыццё, нягледзячы на ўсе цяжкасці і хібы, нярэдка адорвала яго хвілінамі бязмернага шчасця, якія і надавалі сэнс паўсядзённаму існаванню.

— А ведаеш, як мы, малыя, яе называлі? — перарваў маўчанне дзядзька Іван. І нетаропка, бы сам сабе, адказаў: «Кляксай»... Здагадваешся, чаму?

Пляменнік пацiснуў плячыма.

— Грушы надта хутка пераспяваюць... — працягваў стары. — Бач, як па́даюць на зямлю, бы кроплі чарніла на аркуш вучнёўскага сшытка, робячы вялікія кляксы. Зусім так, як мы, малыя, калі вучыліся пісаць. Я ж цэлыя два класы скончыў. О, браце... — зноў, цяжка ўздыхнуўшы, сказаў дзядзька. — Не да школы было, вайна грымацела. Яе, — стары кіўнуў на грушу, — таксама апякло. Калі фашысты вёску палілі, такое полымя шугала, што ад жару ўмомант лісце скруцілася і да пары апала. Так і стаяла аголеная і апаленая ўсю восень і зіму, а вясной, думалі, што не прымалодзіцца.

Яны яшчэ доўга сядзелі і маўчалі — дзядзька Іван на высокім зэдліку, пляменнік на памастку ля расчыненых дзвярэй веранды. Абое тужліва глядзелі на карчакаватую постаць старой грушы, якая працягвала змагацца за жыццё...

...Груша перажыла дзядзьку Івана на цэлыя тры гады. Наскрозь трухлявы ствол, паточаны шашалем і чорнымі мурашамі, не вытрымаў цяжару. Дрэва звалілася ў някошаную атаву, а на яго ломкіх галінах віселі яшчэ не пераспелыя грушы.

У тую ж восень на месцы аджыўшага дрэва пляменнік пасадзіў малады падвой.




Фота pxhere.com

# Страчаная цывілізацыя: Путкамеры



Леанід ЛАЎРЭШ

*(Заканчэнне. Пачатак у №7 (227) і 9 (229) «Літаратурнай Беларусі».)*

Шмат перажыванняў прынесла сям'і паўстанне 1831 года, бо Путкамеры не засталіся ўбаку ад падзеяў. Марыля рыхтавала перавязачны матэрыял, Ваўжынец забяспечваў паўстанцаў сукном сваёй фабрыкі.

У чэрвені 1833 годзе Ваўжынец і Марыля Путкамеры былі арыштаваны за дапамогу эмісару Марцелю Шыманскаму. Яны спачатку знаходзіліся пад вартай у Вільні, а са жніўня па лістапад 1833 года — у Гродзенскім астрозе. Марылю абвінавачвалі, спасылаючыся на сведчанні Шыманскага, але яна не прызнавала сябе вінаватай. Толькі зімой 1833 года Путкамеры змаглі вярнуцца ў свае Бальценікі.

Марыля Путкамер любіла іншую сядзібу Бражэльцы, ціхую жывапісную мясцовасць, дзе рэчка Гражулка несла свае воды ў Сольчу, дзе поймы рэк патаналі ў зеляніне квітнеючай травы, дзе вясновае паветра перапаўнялася спевам птушак. «Нідзе так прыгожа салаўі не спяваюць, як менавіта над Сольчай», — пісала яна ў адным з лістоў. У Бражэльцы Марыля часта прыязджала разам з дзецьмі і праводзіла тут лета. У 1833 годзе яна акампаніравала сваёй васьмігадовай Зосі на фартэпіяна, калі дачка спявала адну з песень Яна Чачота, прысвечаную Сольчы. Тэкст песні Ян Чачот, які ўжо дзявяты год адбываў ссылку на Урале, пераслаў брату Марылі Міхалу Верашчаку з просьбай перадаць Путкамерам.

Адам Міцкевіч у выгнанні з цікавасцю паглынаў усе звесткі з радзімы. На пачатку 1846 года ён даведаўся, што Путкамерова з Верашчакаў, сястра яго сябра Міхала, выдала старэйшую дачку Зоф'ю за нейкага Каліноўскага, інспектара з Вільні, а ў Бальценіках з пісьма Тамаша Зана даведаліся, што Міцкевіч стаў халодным і нават «суровым і здольным прынізіць»...

Віленскі гісторык Чэслаў Малеўскі пісаў, што Ваўжынец Станіслаў Ян граф Путкамер з Версовічаў-Сякерка ад 20 верасня 1847 года да 15 чэрвеня 1849 года займаў пасаду маршалка шляхты лідскага павета. Маршалак быў прызначаны сябрам статыстычнага камітэта пры губернатары Допельмайеры і склаў статыстыку лідскага павета. У тыя часы праводзілася так званая інвентарызацыя панскіх маёнткаў. Гэта быў адзін з першых крокаў па ўрэгуляванні стасункаў паміж прыгоннымі і прыгоннікамі, бо інвентар павінен быў вызначыць межы панскай улады і памеры сялянскіх падаткаў. Гэты крок уладаў выклікаў занепакоенасць шляхты. Маршалак рупліва заняўся складаннем інвентару, тлумачачы сялянам, якія павіннасці яны будуць адпрацоўваць, а якія паны не маюць права ад іх патрабаваць. Пры гэтым пільнаваў за тым, каб абшарнікі не патрабавалі ад сялян выконваць павіннасці, не прадугледжаныя законам, і строга папярэджваў абшарнікаў пра справядлівасць.

Путкамер часта быў пасярэднікам у спрэчках паміж сялянамі і абшарнікамі павета. І шляхта казала пра яго: «Пане дабрадзею, маршалак сялян, а не шляхты». Даведаўшыся пра такія адозвы, Ваўжынец публічна выказаўся, што шляхта дала яму лепшую з магчымых мянушак. Цікавая і заўвага Антонія Адынца пра Ваўжынца Путкамера: «Графскі тытул спрадвеку служыў іх сям'і ў Памор'і, адкуль іх род перасяліўся ў Польшчу і быў зацверджаны геральдыкай краіны. Акрамя гэтага, пан Ваўжынец на прыкладзе дзеда і бацькі не толькі ім не карыстаўся, але нават ужывання яго ў дачыненні да сябе не цярпеў, здавальняючыся, як сам казаў, годнасцю шляхціча».

На сваёй асабістай гаспадарцы граф меў грашовыя клопаты, не ўсё ў яго было добра, што бачна з ліставання з ягоным сябрам і суседам, вядомым гісторыкам Міхалам Балінскім (фрагменты яго прыводзіць у сваёй кнізе Караль Эстрэйхер). Напрыклад, адзін з выкапаных



Герб ПУТКАМЕРАЎ «Окша»

у Бальценіках ста́ваў давялося закапаць праз узніклыя праблемы. Путкамер піша, што ўзяў падрад на будаўніцтва лідскага казначэйства і просіць Балінскага дамовіцца з нейкім панам Аншлам, каб ён не патрабаваў ад графа даваць сваіх парабкаў для працы, і г. д. У лістах да Балінскага ён часта пісаў пра сына Стася, але ніколі не пісаў пра жонку, магчыма, меў у той час нейкія праблемы ў адносінах з ёй.

Памёр граф Ваўжынец Путкамер у Вільні 30 студзеня 1850 года.

Пасля смерці бацькі сын Станіслаў напісаў пра яго: «Дадам яшчэ некалькі слоў з маёй памяці. Кожны сябар і знаёмы майго бацькі памятае яго шляхетную паставу, яго лагоднае аблічча, якое адлюстроўвала высокія думкі і сэрца, якое білася дзеля грамадскага дабра».

Антоні Адынец пасля яго смерці напісаў: «Разбіты паралічом у Вільні, толькі што прыехаўшы з вёскі, ён збіраўся на вечар да мяне, але страціў адразу мову і прытомнасць, і толькі пасля некалькіх дзён пакут прыйшоў да памяці за гадзіну да смерці, але роўна на столькі часу, што змог напаўголасу заспяваць адну страфу перадсмяротнага псалма, які спяваў, паміраючы, і яго дзед. <...> Гэтая страта выклікала спачуванні ўсёй грамадскай супольнасці Літвы. Тамаш Зан, які яго першы раз са мной наведаў, горка плачучы, сказаў пра яго: "Не было ў яго сэрцы здрады!"».

Міхал Балінскі пісаў пра Ваўжынца Путкамера: «Самым паважаным суседам Яна Снядэцкага быў Ваўжынец Путкамер, які жыў у трох мілях ад Яшун у Бальценіках. Калісьці <...> прыгожы ўлан <...>, зусім не арыстакрат, не толькі не багаты, а нават вельмі бедны, бо атрымаў спустошаныя бацькаўскія маёнткі <...>, ён рабіў першыя крокі ў стварэнні прамысловасці нашага краю. Акрамя таго, меў надзвычайныя якасці сэрца і розуму, якія не толькі ў Літве, але і ва ўсім свеце рэдка сустракаюцца. Працавіты, адукаваны чалавек, ён хацеў даць волю сельскаму люду і таму быў паважаны сваімі сялянамі <...>, верны сябар, <...> пры тым, не гледзячы на жыццёвыя праблемы, заўсёды вясёлы, вельмі дасціпны, хадзячы скарбец вусных анекдотаў, аматар кніг і палявання».

Праўнучка Ваўжынца і Марылі Путкамераў Яніна Жаўтоўска пісала ў сваіх мемуарах: «Мой прадзед Ваўжынец Путкамер ніколі не меў вялікую фартуну. Пасля смерці прадзеда маёнтак Бальценікі — Бражэльцы, уласнасць роду з 1723 года, быў зменшаны эксдывізіяй. Уніхаў — наваградскі маёнтак — быў страчаны, праўдападобна, таксама праз экдывізію».

Граф Ваўжынец Путкамер быў пахаваны ў Вільні на Баўфалавай гары Евангелічных могілках пры вуліцы Малой Пагулянцы ў родавай капліцы. На помніку над яго магілай высечаны верш Антонія Адынца:

*Стой, мінача! Стаіш бо,*
*дзе мужа магіла,*
*Што скарбу прыжыццёва*
*пік нашага веку,*
*Чыё сэрца аб Цноце і Праўдзе*
*маліла,*
*Чыя самая сутва ахвярна*
*служыла*
*Чалавечаму ў Богу, Божаму —*
*у Чалавеку*[1].

«Мужыцкі маршалак» пасля сваёй смерці пакінуў вялікія запазыкі.

Лічыцца, што Ваўжынец Путкамер стаў правобразам графа ў паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

Пасля смерці Адама Міцкевіча ў прэсе пачалі распаўсюджвацца розныя чуткі пра адносіны Марылі Путкамер і вялікага паэта. Вось што з гэтай нагоды пісаў Антоні Адынец: «<...> лічу яшчэ абавязкам расказаць пра далейшыя іх адносіны з Адамам, пагатоў гучала страшэнная хлусня на гэты конт, не ведаю, хто першы яе прыдумаў, але яна найперш была апублікаваная ў "Gazecie Polskiej", якая выходзіла ў Варшаве ў 1860 годзе, хоць адразу і абвержаная мною па даручэнні самой Марылі, яе адгалоскі дагэтуль рэхам кружляюць па свеце... Дык вось, першая сустрэча Адама з Марыляй пасля яе замужжа адбылася 22 красавіка 1822 года ў Вільні, калі яна была там з мужам пару тыдняў. Адам бываў у іх даволі часта, але заўсёды толькі ў таварыстве Зана або Чачота. Самому Ваўжынцу ён падарыў экзэмпляр нававыдадзеных сваіх вершаў з аўтографам, кніга дагэтуль знаходзіцца ў ягонага сына. Наступны раз — на Тройцу таго ж года — ён паехаў да іх у вёску, у Бальценікі, <...> не з мэтай выкліку мужа на дуэль, а для правядзення двух дзён свята ў гасцях на вёсцы ў сяброў. Апошняя сустрэча адбылася ў Вільні ў першыя дні 1824 года, калі абое прыехалі з вёскі на пару дзён, каб развітацца з Занам, Чачотам і Адамам Сузіным перад іх выездам у Арэнбург».

Пасля смерці мужа Марыля пераехала жыць у Бражэльцы. Яна будуе тут новы драўляны дом і закладае сад з агародам.

1855 год выдаўся для Марылі асабліва цяжкім. Пажар забраў двары сялян, пачаліся работы ў аказанні дапамогі пагарэльцам. У Дварцы (вёска Дварэц Дзятлаўскага раёна) на руках Марылі памірае любімы брат Міхал. Яго смерць шчыра аплаквалі ўсе сяляне маёнтка. Міхал не меў нашчадкаў і сваю бібліятэку завяшчаў Марылі. У гэтым жа годзе яна даведваецца пра смерць жонкі Міцкевіча Цэліны. «Бедны, бедны... усё на яго валіцца», — пісала Марыля ў суседнія Яшуны Балінскім. А потым не стала і Адама Міцкевіча.

У 1860 годзе ў Вільні адбылася сустрэча Марылі з сынам Міцкевіча Уладзіславам, які прыехаў з Парыжа. Уладзіслаў наведаў Навагрудак і Туганавічы, па яго просьбе жывапісец Вінцэнт Дмахоўскі намаляваў карціны «Дом Міцкевіча ў Навагрудку» і «Сядзіба ў Туганавічах». Копіі карцін былі дасланыя ў Парыж Уладзіславу і прыкметна пашырылі легенду пра Марылю і Адама.

У 1860 годзе ў Бальценіках пасяліўся з сям'ёй сын Марылі і Ваўжынца — Станіслаў Путкамер.

1863 год, год Паўстання, прынёс новыя засмучэнні. Былі арыштаваныя ўнукі Каліноўскія і муж дачкі Караліны Ян Рыхлевіч, арыштаваныя сябры і знаёмыя. Марыля наведвала добра вядомую ёй з 1833 года віленскую турму.

Марыля Путкамер памерла ў снежні 1863-га. Памерла ў год Паўстання, апошнімі яе словамі былі: «За край, за пакутнікаў!». Пахаваная яна каля Беняконьскага касцёла.

Пра сына Ваўжынца і Марылі Станіслава Путкамера вядома не шмат. Ён, як і бацька з дзедам, быў актыўным пратэстантам, як дырэктар кіраваў паседжаннямі Сіноду ў 1872, 1875, 1878, 1879 гадах. Ягоная ўнучка Яніна пісала: «Мой дзед граф Станіслаў Путкамер быў шматгадовым куратарам пратэстанцкага Сіноду, і таму жыў у доме, які належаў Сіноду ў Вільні» і «дзед быў вельмі ашчадны, жыў сціпла і пераважна ў Вільні і нават на летні адпачынак выязджаў не далей, чым да вакольных дамоў». Аднак менавіта ён у другой палове XIX стагоддзя пачаў фармаваць знакаміты парк вакол амаль што страчанага праз заклад маёнтка ў Бальценіках.

Станіслаў Путкамер ажаніўся з Феліцыяй Кяневіч. Яніна Жаўтоўская пісала, што бабуля Феліцыя была асобай цяжкай і дэспатычнай, хварэла на сухоты, але муж кахаў яе і служыў ёй з «анёльскай цярплівасцю і дабрынёй». Менавіта графіня трымала ў руках усе сямейныя справы і планы, і калі ў Вільні новы губернатар стаў больш даступны, дзякуючы ёй сям'я атрымала дазвол на выкуп сваіх маёнткаў. Вельмі любіла свайго старэйшага здольнага сына «Ваву» і ўскладала на яго надзеі ў фінансавым уздыме сям'і. Графіня дрэнна адносілася да сясцёр мужа, і яны плацілі ёй тым жа. Яніна памятае, як сёстры дзеда меркавалі, што праз



Гродзенскі астрог

[1] Пераклад з польскай Марыі Мартысевіч.

Заканчэнне на стар. 3 »

# Страчаная цывілізацыя: Путкамеры

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

сваe амбіцыі бабуля патрабуе ад сыноў празмернай вучобы, і, на іх меркаванне, менавіта вучоба змарнавала здароўе малодшага з іх — Іпаліта. Акрамя двух сыноў, Путкамеры мелі і дачку Паліну (па мужы — Хоўвальт). Пра шлюб цёткі Яніна піша: «Да маёй цёткі Польці заляцаліся адразу два кавалеры, суседзі Уладзіслаў Хоўвальт і багаты Вітольд Вагнер з Салечнікаў. Пры партыях вінта ці прэферанса два прэтэндэнты збліziліся з маім дзедам, які выбраў Хоўвальта і такім чынам вызначыў лёс адзінай панны ў сям'і.... Жыццё сям'і майго бацькі было правінцыйнае і нуднае, абумоўленае недахопам грошай і краёвымі паразамі, <...> квітнелі сямейныя цноты, паважаліся адсутнасць эгаізму і прастата сэрца».

Сын Станіслава Путкамера — Ваўжынец (11. 4. 1859 — 30. 11. 1923) скончыў Віленскую рэальную вучэльню і ў 1880 годзе — Санкт-Пецярбургскі інстытут інжынераў шляхоў зносін.

Яго дачка, Яніна Жаўтоўска, пісала: «Мой бацька і стрый закончылі Інстытут шляхоў зносін у Пецярбургу. Будова чыгункі ў сямідзясятых гадах XIX стагоддзя была на ўздыме, і здольныя інжынеры маглі зарабіць на маёнтак... Мая бабка павінна была з цікавасцю слухаць аповеды пра генерала Жылінскага, які асушае Палессе, ці пра будаўніцтва моста на Вісле, <...> ні адзін з яе сыноў не зрабіў кар'еру на чыгунцы, бо стрый Іпаліт меў дрэннае здароўе, а мой бацька ніколі не дасягнуў вышынь кар'еры інжынера, але, працуючы ў генерала Жылінскага, зблізіўся з крэўнымі з Дзерашэвіч і там узяў сабе жонку».

Як інжынер-пуцеец малады граф удзельнічаў у будаўніцтве Уральскай, Бакінскай і Палескай чыгунак. Апошняя прайшла літаральна за некалькі кіламетраў ад радавога маёнтка Бальценікі.

Ваўжынец пакінуў кар'еру інжынера і застаўся на радзіме, у 1883 годзе ён ужо чалец Віленскага дваранскага збору. «Пра маладосць майго бацькі чула не шмат. Праца дзеля заробкаў у варожым асяроддзі не адпавядала яго амбіцыям <...>, ішла супраць яго шляхецкіх інстынктаў». У 1887 годзе малады граф ажаніўся з Зоф'яй Кяневіч, дачкой уладальніка маёнтка ў мазырскім павеце Дзерашэвічы, з якой пазнаёміўся ў час будаўніцтва чыгункі. Пасля жаніцьбы граф стаў буйным землеўладальнікам, меў 1,1 тысячы дзесяцін у Віленскай і 9 тысяч дзесяцін у Мінскай губернях, пра што дачка Яніна пісала: «Шлюб маіх бацькоў здзейсніў мары маёй бабкі, бо на пасаг маёй маці былі куплены Карэлічы з чатырма фальваркамі, маёнтак такі добры і прыгожы, што нават на Навагрудчыне лічыўся "залатым яблыкам", а ў Аўгуста Патоцкага былі купленыя


Дом у Бальценіках

Ракішкі — частка маёнтка Гародна ў лідскім павеце. Жаніцьба яго была шчаслівай, бо дала яму духоўнае апірышча і неабходныя матэрыяльныя вартасці: багаты і прыгожы двор».

Пасля смерці ад сухотаў брата Іпаліта ў 1895 годзе Ваўжынец атрымаў яго маёнтак пад Карэлічамі. А ў 1897 годзе Казімір Верашчака танна прадаў графу маёнтак у Райцы. У 1910 годзе Раец у пасаг атрымала яго дачка Яніна, якая выйшла замуж за прафесара Адама Жаўтоўскага.

Пры канцы XIX стагоддзя сядзіба Путкамераў у Бальценіках прыйшла ў заняпад, а дом стаў малым для сям'і. Таму было вырашана разабраць старое айчыннае гняздо і пабудаваць новы двор. Праект новага дома ў стылі англійскай готыкі з чырвонай цэглы распрацаваў архітэктар Тадэвуш Раствароўскі.

«Пэўна, у 1895 годзе я першае лета праводзіла ў Бальценіках. Жылі мы ў трох пакоях у афіцыне, сярод прымітыўных крэслаў і столікаў, на падлозе з нефарбаваных дошак. А наваколле уздымаліся новыя чырвоныя муры новага дома, паміж афіцынай і новым домам у скрынях ляжала гашоная вапна. Мае бацькі распачалі будоўлю гаспадаркі ў малых і ўбогіх Бальценіках, вынішчаных за доўгія гады знаходжання ў арэндзе. Старыя будынкі фальварку сталі руінамі, здзічэлыя палі былі ўсланыя камянямі. На працягу шэрагу гадоў сялянe звозілі камяні з палёў для пабудовы "кітайскага" муру, які атачаў сад».

Будоўля закончылася ў 1896 годзе. Новы дом меў спічастыя дахі, высокія коміны і вялікія лучковыя вокны. Унутраны дызайн дома распрацаваў сам гаспадар, а выканалі мясцовыя і віленскія майстры. Найбольш прыгожымі былі чатыры рэпрэзентатыўныя пакоі: пярэдні пакой, салон, кабінет і сталовая. Салон быў абстаўлены мэбляй у стылі Людовіка XV, якую зрабіў віленскі цясляр па ўзорах, прапанаваных панам Слізьням — агульнавядомым у той час калекцыянерам і «арбітрам добрага густу» ў Вільні. Кабінет быў абстаўлены невялікімі кніжнымі шафамі, бюро, канапамі, фатэлямі з дэкарацыямі з накладной бронзы. У сталовую вялі белыя дубовыя дзверы, яна мела белыя дубовыя столі, а на сценах віселі партрэты роду Путкамераў. Пры старым доме меўся сад у старасвецкім стылі. Пасля пабудовы новага дома сад пашырылі і пераплànавалі ў англійскім стылі паводле праекту вядомага садоўніка з Вільні Паўловіча. У садзе быў выкапаны вялікі стаў, а папярок ракі насыпаная грэбля. Парк агульнай плошчай болей за 8 га знаходзіцца ў паўднёвай частцы сядзібы.

Парк у Бальценіках і цяпер лічыцца адным з лепшых узораў пейзажных паркаў у Беларусі. З канца XIX стагоддзя ён пасяхова папаўняўся экзатычнымі дрэвамі. Парк з'яўляецца помнікам прыроды рэспубліканскага значэння.

Да Першай сусветнай вайны ў адным з бюро ў Бальценіках захоўваліся стосы лістоў Марылі з Верашчакаў да мужа. «З свайго дзяцінства памятаю расказы, што лісты нудныя і датычаць гаспадарчых спраў... Пра вялікае каханне найвялікшага з польскіх паэтаў успаміналася час ад часу пад уплывам артыкула ці нейкага пытання кагосьці, але чалавечы бок таго літаратурнага рамана мала каго цікавіў», — пісала Яніна Жаўтоўска.

У 1900 годзе Ваўжынец Путкамер уступіў у Віленскае сельскагаспадарчае таварыства, увосень 1905 года яго абіраюць дэлегатам ад дваранства Лідскага павета Віленскай губерні ў Віленскую земскую камісію для вырашэння пытання аб земствах у Прыбалтыйскіх губернях. У тым жа годзе графу Путкамеру было дазволена пабудаваць у маёнтку Бальценікі вінакурны завод. У 1906 годзе стаў адным з арганізатараў Віленскага грамадства сяброў навукі і быў абраны куратарам Віленскага евангелічна-рэфарматарскага сіноду і куратарам евангелічна-рэфарматарскага прыходу ў Вільні. Кіраваў пасяджэннямі Сіноду як яго дырэктар у 1911 і 1912 гадах. «У выніку цяжкасцяў і нешчаслівага лёсу людзі на Літве дзічэлі, былі нясмелымі, упадалі ў неўрастэнію. Мой бацька меў такую натуру буйную і багатую, што не страціў сваю індывідуальнасць... Маючы ад нараджэння розныя здольнасці, не меў неабходнай пільнасці і не любіў займацца нуднымі рэчамі», — пісала Яніна Жаўтоўска.

Як палітык, Ваўжынец Путкамер быў чальцом польскай Нацыянальнай лігі і Нацыянальна-дэмакратычнай партыі. У 1907 годзе быў старшынём Лідскага павятовага выбарчага камітэта і таварышам старшыні Віленскага губернскага выбарчага камітэта. 6 лютага 1907 годзе быў абраны ў 2-ю Дзяржаўную Думу ад агульнага складу выбарнікаў Віленскага выбарчага збору. У Думе ўваходзіў у Польскае кола і працаваў у Бюджэтнай камісіі. Пасля роспуску 2-й Дзяржаўнай Думы вёў актыўнае грамадска-палітычнае жыццё: удзельнічаў у дзейнасці Віленскага сельскагаспадарчага таварыства і да красавіка 1909 года ўваходзіў у яго раду, неафіцыйна прэзентаваў інтарэсы таварыства ў Санкт-Пецярбургу, у 1908 годзе ўвайшоў у Віленскае таварыства падтрымкі польскага сцэнічнага мастацтва, прадстаўляў дваранства Віленскай губерні ў Санкт-Пецярбургскім чыгуначным камітэце. Граф Ваўжынец Путкамер у 1912 годзе быў абраны ў 4-ю Дзяржаўную Думу ад з'езда землеўладальнікаў Віленскай губерні. У Думе ён стаў старшынём Групы заходніх ускраін і як прадстаўнік фракцыі — чальцом Рады старэйшын. Працаваў у некалькіх камісіях: фінансавай, па мясцовым самакіраванні, па ваенных і марскіх справах, зямельнай, аб замене сервітутаў. Быў дакладчыкам Фінансавай камісіі, выступаў з думскай трыбуны ў абарону правоў народаў заходніх ускраін Расіі.

На пачатку Першай сусветнай вайны Путкамер падтрымаў антыгерманскую дэкларацыю Польскага кола, верыў у магчымасць аднаўлення дзяржаўнасці ў выпадку перамогі Расіі. Выступіў у падтрымку Прагрэсіўнага блока, заявіў пра гатоўвасць увайсці ў яго склад з умовай, што прадстаўнікам Польскага кола будзе прадастаўлена права выступаць па нацыянальным пытанні, не абмяжоўваючыся рамкамі праграмы блока. Рэзка крытыкаваў тактыку «выпаленай зямлі», якую ўжывала адступаючае расійскае войска. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года атрымаў адмову Часовага камітэта Дзяржаўнай думы ў просьбе камандзіраваць яго ў Віленскую губерню «для арганізацыі камітэтаў, міліцыі». Удзельнічаў у арганізацыі і правядзенні Польскага палітычнага з'езда ў Маскве (ліпень 1917 года) і ўвайшоў у склад абранага на з'ездзе міжпартыйнага аб'яднання — Польскай Рады. Быў абраны чальцом Рады «Крэсаў Усходніх», якая займалася каардынацыяй працы польскіх палітычных дзеячаў у Літве, Беларусі і ва Украіне.

Пасля кастрычніка 1917 года Ваўжынец Путкамер выехаў з Петраграда ў Мінск, а потым у Вільню. Увосень 1918 года стаў чальцом дваранскай арганізацыі, якая выступала за далучэнне Віленскага краю да Польшчы, і быў прызначаны германскімі акупацыйнымі ўладамі «дэлегатам па справах польскай нацыянальнасці». У лістападзе 1918 года ўдзельнічаў у з'ездзе дваранскіх дэпутатаў у Вільні, адстойваў планы польскіх нацыянал-дэмакратаў па ўключэнні Віленскага краю ў склад польскай дзяржавы. Пасля па даручэнні часовага камітэта польскіх таварыстваў і груп у Беларусі быў камандзіраваны ў Парыж, дзе вёў прапаганду пра далучэнне да Польшчы былых заходніх губерняў Расійскай імперыі, супрацоўнічаў з Нацыянальным польскім камітэтам. У траўні 1919 года вярнуўся на радзіму і ўступіў у польскі Народна-нацыянальны звяз. Увосень 1922 года ў спісе Хрысціянскага звязу нацыянальнага адзінства браў удзел у выбарах у польскі Сенат 1-га склікання, але не быў абраны.

Загартаваны і вопытны палітык раптоўна памёр ад апаплексічнага ўдару і быў пахаваны ў Вільні на кальвінісцкіх могілках.

Летам 1939 года Бальценікі наведала амерыканская даследчыца біяграфіі Адама Міцкевіча Мэрыон Колмэн, якая застала ў жывых унучку Марылі Зоф'ю Путкамер. Маёнтак быў тады ў добрым стане, яго часта наведвалі турысты. Зоф'я пацвердзіла сямейнае паданне, што крыж на камені-валуне быў высечаны яе бабкай Марыляй...


Магіла Ваўжынца ПУТКАМЕРА на Евангелічных могілках Вільні. Малюнак Уладзіслава ЗАГОРСКАГА, 1925 г.


Магіла Марылі ПУТКАМЕР-ВЕРАШЧАКІ каля касцёла ў Беняконях

# Два апавяданні



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

## Змылак

Валодзька сядзеў у машыне, круціў, пазяхаючы, колца прымача, ленавата шукаў, прыслухоўваўся, ці не прынясуць хвалі з эфіру штосьць знаёмае. Ён не любіў новых песень: з вокан чужых дамоў, магнітафонаў суседскіх машын выпадкова наслухаецца, тады і прывыкне да новай песні.

На ім блакітная майка, у якой толькі што прачнуўся, не паспеў замяніць на свяжэйшую, сінія кітайскія трэнікі з «хімвалакна» з белымі лампасамі — купіў у Бягомлі апошнім рэйсам. Гнаў гружоную фуру, гля — базарчык зварочваюць: разыходзіцца народ, гандляры збіраюць баулы, трамбуюць у бусікі заляжалы скарб, — самы момант, сцяміў Валодзька, яны апошняга купца не ўпусцяць, не пакрыўдзяць, саступяць цану. Ён — па тармазах, якраз прыпаркавацца ёсць дзе. Тады і падабраў штаны па сабе, ні мітусні, ні спешкі. Хадавыя, спрытныя, пуп гумка не ціснe; прыдзіся ў дарозе, як рэйс затрымаецца, штаны перамыць — адзін міг, хоць у лужыне пабоўтай, праз паўгадзіны сухія, чыстыя, не трэ, не муліць, шафёру — самая адзежына.

Чакаць у кабіне — яго звыклы занятак. Па первасці, як толькі пайшоў рабіць, вазіў начальніка на УАЗіку. Во дзе брыдота! Днямі дупу мазоліў — як пойдзе начальнік: то сход, то сесія, то канферэнцыя, адно — балбатня, сам так казаў, а Валодзька — таўчыся як наважаны ці стрыножаны, надта не адскочыш.

Як толькі вызвалілася фура — адзін на пенсію пайшоў — выпрасіўся на яго месца, не дарэмна ж цярпеў, не быў бы з начальнікам на кароткай назе — хрэн атрымаў бы машыну. Няхай брэшуць цяпер, няхай падсмейваюць, маўляў, скатавоз займеў і рады.У парку ёсць два сапраўдныя рэфрэжэратары: «чоткія» машынкі, «Мэрсэдэс»! Каму, здагадайся з трох раз, дастануцца? Можна да трох не лічыць, і так ясна: зяцю глаўбуха і пляменніку зама, во гаўнюк гэты цяпер і назаляе: скатавоз, скатавоз, бо абяцаў сябру гэтае месца падагнаць, выйшаў аблом.

Цяпер Валодзька з шчымлівым гонарам слухае песню «Дальнабойшчык», спявае такая беленькая, сімпотная, халера, забыўся як зваць; цёпла робіцца на душы, нібы пра яго песня. Калі выязджае з варот завода ў рэйс, на прахадной, на паваротах едзе павольна, ды і па вуліцы пасёлка ледзь сунецца, як на кані, аглядаецца — дзяўчаты, жанчыны, ці заўважаюць яго?

Сягоння ж ён сядзіць у сваёй машыне. Любіць гэтую марку за лёгкі ход, за яе надзейнасць. Вядома ж б/у! Ну і што. Паездзіць, падрамантуе, прадасць, сабе крыху навейшую прыгоніць. Трэцяя ўжо, на ёй і капейчыну зарабіць прасцей.

«Аўдзі»-100 і толькі! Ляціш па трасе — нібы ў лайнеры: падкідвае мякка, плаўна, не калоціць, праўда, ён у лайнеры ніколі не лятаў, не ведае, як у ім — хлопцы казалі, хто толк мае.

Валодзька прывёз маці ў царкву, тая стараецца кожным святам дастацца, але ў сваю, бліжэйшую. Сягоння ж Ганна, а то і яе дзень. Гэта свята адмысловае, трэба ў Кавалі шыбаваць, таксама не шлях, але з хворымі нагамі, ды машына ж на хаду, не цяжка, падвёз. Можа чакаць і не будзе, лепш пад канец службы пад'едзе забраць. Дома вараўня чакае, пачаў імшыць. Ад чатырнаццаці гадоў за гаспадара, як бацька памёр — прыйшлося брацца.

Ён неяк прамінуў сваё юнацтва. Спачатку рана было прыглядацца па-сур'ёзнаму да дзяўчат, ад тых чатырнаццаці затое цікавілі яго замужнія маладухі; дзе дарослы не насмеліцца, каторы пасаромеецца, гэты прашмыгне.

Вяселле, сваты-хлопцы наглядаюць сабе парай за стол сесці спрытнейшых свацццяў. Усе на адну пазіраюць, спадабалася: гарадская, фігурыстая, модная, валасы пышныя, даўгія, па плячах, лялька, «як у кінах паказваюць». Муж пры ёй, аказалася. Пакуль за стол сядалі, Валодзька праціснуўся, скок — сядзіць побач. Яму што? Муж з другога боку. У застольных гульнях прыйдзецца Валодзьку красуню гэту цалаваць. Нечага па вясковых вяселлях валэндацца, як не прызнаеш тутэйшую культуру.

«Хто нарадзіўся ў январы? — пытаецца тамада, застолле падпявае, — Прашу падняць бакал». Яна падымаецца, а суседзі з двух бакоў павінны яе цалаваць. Гэта — раз! Валодзя млее. Які пах парфуму! Як усміхаюцца салодкія вусны, а на шчочках ямінкі. Хлопцы зайздросцяць. Яна, канечне, без асобай увагі да яго, нібы да падшыванца якога падстаўляе твар, — Валодзька не высокі ростам, забава, адчуваецца, ёй не па нутру. Тамада пералічвае далей: «А хто радзіўся ў сінцябры?» Два! Падымаецца Валодзька, і ўжо яна мусіць з лавы ўставаць, цалаваць яго. І ўжо лагадней, не так абыякава: імяніннік жа! Любіць Валодзька гэтыя вясельныя гульні. Ён не п'е, паднясе, пасмакуе для прылікі, няма ў яго цягі да алкаголю: горка, які смак?

Потым выходзяць з-за стала ў танцы, Валодзька і тут падрупіцца — хай муж варон не ловіць! А гэта ўжо — тры і чатыры, і пяць, бо муж не пасе жонку, яна не крыўдзіць кавалера, танцуе з юнаком. І падступіцца ніхто не пасмее, бо ён тут блізенька круціцца, цікуе, каб не апераздзілі — цоп за руку і ў танец.

А пайшоў рабіць на завод, тут яго аж на пяце круціць пачало. Па тэрыторыі жанчыны — туды, сюды, абцасікамі цок, цок, апранутыя адна перад адной, каб не горш. І ніводнай з манашкай не зблытаеш: смяшлівыя, жартуюць, каторая і падмігне.

Зусім яшчэ нядаўна іншая пагода трымалася між паламі. Да жаніцьбы яна і ён «хадзілі», так казалі пра яўную пару: ходзяць, значыла — сустракаюцца.

— Колькі гадоў вы хадзілі? — Тры. — А мы пяць.

Звычайнае пытанне, звычайны адказ. Трымацца ў грамадзе адно аднаго лічылася харошым узорам, цяпер так не ў модзе — аб'юз! Свабода сямейных стасункаў.

На заводзе было… Прывёз не тутэйшы шафёр груз, пакуль бухгалтар ліст пуцявы афармляў, той прыторкнуўся з цыгарэтай да купкі, што стаяла тут ля вакна. Звонку пад акном у канторскім двары двое перамаўляліся, мужчына з жанчынай. А дурань гэты наезджы вазьмі ды ляпні: «О! Дык то ж знаёмыя — наша салодкая парачка! Працуюць тут у вас? Палюбоўнікі! Часта ў лес наш наведваюцца адпачываць на турбазе». Побач з гэтым курцом і стаяла жонка «заяконнага турыста» — пагарэў бедалага… Развяліся.

Валодзька, на пятнаццаць гадоў маладзейшы, суцяшаць гаротніцу ўзяўся. І ёй жа муліць былога мужа дапячы, ціпа кругластаронне выгадны гешэфт.Той муж любіў без цямы, а загуляў з распусты, праз сучасную завядзёнку: калі ўсе гуляюць — я чым горш? Ажаніўся са злосці на палюбоўніцы, прыжылі дзвюх дачок — нібы здзічэў інтэлігентны некалі чалавек: сварацца, валтузяцца, на ўсё наваколле з вокан гвалт, рэдка цвярозыя — як у вір галавой жыццё рынула. Як у народзе кажуць: ажаніўся, як у багну ўваліўся.

Валодзька хітры: гуляй, ды галаву не губляй! Разам на машынах — кожны на сваёй, наперагонкі кудысьці лятуць, жартуюць, цешацца, а начаваць у яе не застаецца — каб ніхто не папракнуў прымаком. А ці паедзе яна да яго, на тую сядзібу біцаваць, гектары ўрабляць? Ды жанчыны зусім інакшыя ў нораве: паедзе, не паедзе, а перамагчы свярбіць, каб і замуж малады ўзяў — даказаць плёткаркам, і… бо муж кусаць локці павінен!

А ён прастачком прыкінуўся: не разумее, чаго жанчына дамагаецца. А сам употай і нявесту нагледзеў, прымяраецца, «ходзіць»… па тых сцежках, дзе не ходзіць завадская знаёмая. Абедзьве дазналіся, абедзьве далі адстаўку.

Тужыць не ў яго натуры. Жанчын хапае, да абеда адна катаецца з ім, вязе па поўдні другую. Падзыгне каторая ў дыспетчарскай, маўляў, глядзі, маліц, — змылішся! Ён няўцямна твар свой нявінны паверне да жартаўніцы: «Прыду-у-умаюць людзі… У ягады чалавека падкінуў, а ўжо плётак!» У ягады вазіў і лабараторыю, і канторскіх, бухгалтэрыю не адкідваў. Грэблівым вокам рэдка якая спыніла яго намер, да такіх Валодзька не далазіўся: «Вой, незачэпа, няхай са сваім гонарам ходзіць, як у ваду апушчаная!» — крыху пакрыўджана думаў ён. «А ты мяркуеш — ашчаслівіў жанчыну, як звазіў у кусты?!» — кінула яму ў вочы адна з прахадной, ядавітая кабетка… Запякло! Валодзька думаў, так яно і ёсць, іначай навошта жанчыны садзяцца да яго ў салон? Надта ніводную не даводзілася ўгаворваць, а каб які гвалт — крый бог! Ён чалавек спакойны, ціхі, без крыміналу. Хто іх разбярэ, жанчын?

Дзяцюк-перастарак ён ужо даўна. Дзяўчатам навошта такі змылак здаўся. Саламяныя ўдовы пакінулі на яго спадзяванні. Пакатае адну, пакатае другую: далей яму не цікава — зачыну, іскры здабывае; сам момант узгарання, як той казаў, найдаражэй адаптацыі, кожны раз як упершыню — прынараўліваешся, трымціш…

Аднагодкі ўнукаў гадуюць, «ягаднiцы» яго ў пенсіянерыю паўступалі, а хто і памёр… Валодзька размяняў на днях шосты дзясятак, а звычак сваіх мяняць не спяшаецца. Канечне, не тое, што раней, больш дома ў тэлевізары сядзіць, а нядаўна ноўтбук купіў — цікава паглядзець. Не-не, ды і пад'едзе пад клуб пры ўваходзе пастаяць, пільнуе дзяўчат маладых. Што! Цяпер так: мужчына лысы, стары, пузаты, пры ім пратэзы на ўсе выпадкі жыцця і пятнастоўка. Праўда, у Валодзькі на такую перспектыву грошай малавата, дык і хэнці ў яго ніколі не было асаблівай, мо таму і не жаніўся… Так — падурэць, пагарэзаваць.

## Майстрыха

Хата яе стаяла на беразе возера. Уся патанала ў бэзах і лозах. Самой Марыі канчаўся восьмы дзясятак, яна ўжо амаль не выходзіла з двара. Прысядзе на лаўку, як сонца шчадруе, так і перабавіцца палову дня, косці грэе. Да Марыі, не гледзячы на тое, што па справе патрэба ў майстрысе даўна адпала — ідуць па ранейшаму, як на кірмаш.

Нораў цяжкі ў Марыі, настрой рэдка бывае лагодным, прамая ў словах, усё ў яе — поперак, супроць ды ў лоб! Голас нізкі, грубаваты, ды не шматслоўная, скажа — як цвік уваб'е! Усё адно цягнуцца жанчыны да яе, нібы іх сюды сіла вядзе. Можна было б дадаць… не толькі жанчыны, ды што ўжо ўспамінаць тое пры такой даўніне, ніхто нічога не памятае.

Некалі Марыя славілася рэдкай майстрыхай. З усіх бакоў даставаліся да яе жанчыны праз вялікі дыфіцыт станік пашыць. Не спраўлялася раннесавецкая вытворчасць. А ў Марыі спрыт, што ў царскай белашвейкі. Любой нягеглай ляпёсе да ладу постаць управіць. Да Марыі з патрэбай і жук, і жаба, ад сялянак да жанок чынавенства, і тканіна, з якой працуе, адпаведна заказчыку: каму з паркалю, каму з паплiну, каму з ядвабу і атласу, а то лайно[1] ды сацін. Што да майстэрства і якасці — рубчык да рубчыка, клінок у клінок, незалежна ад кошту тканіны. Марыіны шнураванкі больш на гарсэты цягнуць, чым на станікі, але шыла і звычайныя.

Ад раніцы ў майстрыхі людна. Тыя — да прымеркі прыйшлі, паселі надоўга, відаць, пагаманіць хочацца, душу адвесці. Вось нетутэйшая з цягніка начнога ніякавее, топчыцца, сароміцца чужых, на яе ўся ўвага. Марыя гыркне на кабет.

— Што зенкі вылупілі, дайця чалавеку аддыхацца з дарогі. Захініця фіранку — сурочыця мне маладзіцу!

Гэтыя печ цепляць, другая па ваду бяжыць — майстрыху ад паўсядзённага клопату вызваляць, хутчэй чарга варушыцца. А Марыя імі камандуе, мала не генерал.

— Што ты як смарчок ссунулася? Дзе твае сіські?

Марыя тэатральна хавае галаву ў плечы, нібы тая чарапаха, горб з сябе выпінае — паказаць, як непрыгожа трымаецца кабетка. А раптам у струну выцягнецца афіцэрскай выпраўкай: спіна роўная, шыя — як у лябёдкі. Скруціць дзве хвігі, да грудзей прыставіць дзюбамі ўверх — во як жанчына трымацца мусіць!

— У цябе дупа, Валька, як арудзія! Сцёгны, што бёрны! Сіські роўна сраку на плечы павесіла! Дзе ж на цябе мацеры накупісся! — Ці: — Твой мужык, Таня, такі падлабеннік, такі тумарнік, падкалоднік — у вочы адкрыта не зірне. І якая пільніца была табе ісці за яго — абух абухом! Лацно Надзі балесаваць! Яна замужам, як у мядзьвежым вуху! Пабарствавала б пры маім! Але і праўду скажу: саламяны мужык лепшы за дзяцей залатых; І во чаму ты, бабка, сядзіш тут пры мне трэці дзень? Няма дома да чаго рук прыкласці? У гаспадарцы ўсё гармідарам: кіне гаем лядам — і на сяло! Не дарма мужык ганяе. Цябе трэба біць, біць, паслухаць ці жывая — і далей біць. Пры гэткім даглядзе ў вас сёлета бульба ўрадзіла — ого! Пяць мяхоў пасадзілі — шэсць выкапалі. Адкуль лішні мех узяўся?

Можа, каторая і крыўдзіцца таемна на такія балючыя словы, ды як удасі? Другім разам не будзе да каго звярнуцца — крыўдзіся сабе, колькі ўлезе, а каму ад гэтага горш? У крамах купіць няма чаго, а ўжо бялізны і патом таго — шаром пакаці. А Марыя выштукоўвае такія гатункі! Церпяць жанчыны, рагочуць дзеўкі, тут табе і карысць, тут і забава, тут і адпачынак, тут табе і «псіхалагічная тэрапія». Хто яшчэ горкую праўду скажа?

— Дзе ты, Марыя, такому шведу навучылася? — дзівіліся жанчыны.

— Сапраўды, мудроны занятак…

— Гэта татка мой так любіў мяне і песціў, — адказвала Марыя. — Як пачала на дзеўку брацца, мой бацька ўзвярнуў на воз шэсць мяхоў жыта і — на базар. Не пашкадаваў аддаць за станік столькі дабра. Амерыканскі прывёз, беленькі, увесь у карунках — цацачка! Дзесяць гадоў насіла! Так берагла, шанавала, потым распарола па частачках і перамалявала на выкрайку. Як сабе пашыла, ды радні, ды прыяцелькам. З таго часу — майстрыха. Во як татка мой патрапіў. На ўсё жыццё хлеб з маслам займела…

[1] Лайно ўжыта ў яго сапраўдным беларускамоўным значэнні: льняная тканіна.

# Трускалкавы дыван



Аксана СПРЫНЧАН

***

*месца*
*майго нараджэння —*
*рай*
*некаторыя*
*называюць яго*
*райцэнтр*
*вядома ж*
*гэта цэнтральнае месца*
*на той і на гэтай зямлі*
*месца*
*дзе «ц» можа чаргавацца з «т»*
*бо мой рай — гэта места*
*(калі афіцыйна)*
*места —*
*якое насамрэч — мястэчка*
*(калі неафіцыйна-ласкава)*
*мястэчка —*
*якое таксама і выраі*
*бо ў яго прыляцела*
*каб нарадзіцца*
*і прылятаю*
*каб адраджацца*
*вырай*
*для якога прагнецца быць*
*лунніцай —*
*упрыгожаннем-месяцам*
*унутры якога — сонца*
*каб ахоўваць*
*рай, і райцэнтр*
*і мястэчка, і места*
*і месца выраю —*
*Лунінец*

***

*Лунінцу —*
*роднаму чыгуначнаму вузлу*

*весці рэй*
*рэйкам і шпалам*
*шалу*
*(які са мной сувымерны)*
*цягнікоў*
*з нікамі местаў,*
*мястэчак*
*з нумарамі месцаў*
*згары і здолу*
*бочных і з боку ад бочных*
*у СВ ці ў агульным вагоне*
*палі і гоні*
*купэ ці плацкарта*
*віновая карта*
*мапа на століку*
*маштаб: адзін да аднаго жыцця*
*сувымернасці вымя*
*смокчуць вужакі-рэйкі*
*а кропля застаецца табе*
*зліжы язы.com*
*«Komm zu mir!»*
*не паспеў на цягнік*
*стоп-кран*
*стоп-рана*
*спуск, платформа*
*адпаведнасць-неадпаведнасць*
*формы і зместу*
*мы*
*завязаныя ў вузел*
*начны*

***

*На маёй Лунінеччыне*
*гняздуюць белыя чаплі...*
*Зачапіла душу іх*
*таямніца палескай зямлі.*
*Толькі тут*
*Бог пакінуў магчымасць*
*на свет нараджацца,*
*узлятаць птушанятам*
*першы раз у жыцці...*
*Нібы белая чапля,*
*паляцела матуля мая*
*з гарадское тлумнечы*
*да роднае хаты.*
*І таму,*
*быццам белая чапля,*
*умею кружляць,*
*і таму,*
*быццам белая чапля,*
*не ўмею спяваць,*
*і таму валявахай*
*імкнуся заўсёды да волі,*
*і таму Вылівахa*
*мне кветку шыпшыны падорыць*
*на маёй Лунінеччыне,*
*на зямлі*
*з беласнежнымі*
*крыламі.*

***

*Вып'ю кубачак кавы*
*і пайду на канаву*
*згадваць маленства...*
*Сястра Алёнушка*
*пад старым лунінецкім вязам кажа:*
*— Паеду на мора.*
*І тут жа перадумвае:*
*— Не, лепей я пайду*
*з дзедам на канаву.*
*Ні дзеда,*
*ні дзяцінства,*
*у якім я не любіла каву,*
*а толькі сырадой...*
*Але і яго няма,*
*як няма і старога вяза...*
*А ёсць любоў*
*і наш з сястрою жыццёвы пароль:*
*— Паеду на мора.*
*— Не, лепей я пайду на канаву.*

***

*Мой Лу́нінец!*
*З табою я на «ты»,*
*і нацiск стаўлю*
*не паводле нормаў,*
*і нацiск стаўлю над тваёй зямлёй*
*сваім жыццём*
*неўнармавана-поўным,*
*і выпраўляю, як памылкі, —*
*памяць*
*у шлях да вязаў, што звязалі лёс*
*і з вуліцай Царкоўнаю,*
*і Сельскай,*
*і з доўгаю дарогай на пакос,*
*дзе бусел белы ў жніўні,*
*перш, як развітацца,*
*не жаб шукаў —*
*мяне на сена нёс,*
*і асыпалася насенне спелае,*
*нібыта жыць спяшалася без цэзію.*
*І я ляцела да сваёй зямлі —*
*усцешыцца, надыхацца, сагрэцца...*

***

*Ты пахнеш Лунінцам,*
*трускалкавым дыванам...*
*Вось-вось зачырванелася першая ягада,*
*і трэба яе неяк дастаць,*
*пакуль не бачыць бабуля,*
*бо нават маленькую ножку*
*няма куды паставіць,*
*каб не расціснуць зялёныя...*

*Але што мне астатнія, калі ёсць ты,*
*бо ты пахнеш Лунінцам,*
*трускалкавым дыванам...*

*А-ёй! Увесь дыван чырвоны,*
*перапоўнены стомай ад сонца,*
*і я стамлёная*
*ад напаўнення кошыкаў спеласцю,*
*і ўжо няма той жарсці,*
*калі дакранаешся вуснамі*
*да трускалак, цябе,*
*які пахне Лунінцам,*
*трускалкавым дыванам...*

*Божухна! І гэта ўсё трэба прапалваць,*
*знікаць у траве будзённасці*
*і толькі згадваць ягадны рай*
*і паціху забываць —*
*ты пахнеш Лунінцам,*
*трускалкавым дыванам...*

*Сны, сны, сны, час вясны,*
*кветкі, якія не дорыш мне,*
*бо ведаеш — не даравала б*
*сарваны вэлюм трускалкі...*

*Але раптам ты просіш заплюшчыць вочы,*
*і да вуснаў маіх*
*дакранаецца нечаканая слодыч,*
*і я зноўку ўпэўненая —*
*той, каго я кахаю,*
*пахне тым, што я люблю...*
*Ты пахнеш Лунінцам,*
*трускалкавым дыванам...*

***

*мой жораў танчыў*
*лепей за ўсіх*
*і паіў сцюдзёнай вадою*
*ён заўжды адказваў*
*на шчасця крык*
*і мог адшаптаць ад болю*
*а потым жораў трапіў у рай*
*вада — у прадонне Палесся*
*і там дзе ўзіралася*
*ў люстрадно*
*зніклі і я*
*і неба*

***

*А пасля цябе*
*застанецца Слова,*
*якое і так было са мною,*
*якое агучвала тваю прысутнасць*
*у радках, што беглі*
*ад тваёй сутнасці*
*да адсутнасці*
*на суд вачэй,*
*у сад начэй,*
*на крык мой першы,*
*што Прыпяць чула*
*і ў свет панесла*
*празрыста-светлая —*
*было трынаццаць гадоў да цэзію...*
*І крык жыцця той*
*заўсёды ў Слове*
*да ўсіх данесеным*
*і непрамоўленым...*

***

*Паміж камянямі*
*маёй Беларусі*
*ды іхнай адсутнасцю*
*на маёй Лунінеччыне*
*перацiраюць мяне*
*жорны жыцця,*
*балюча і прыгожа.*
*І толькі граніт,*
*цэлы кар'ер,*
*нібыта Гулівер,*
*збытаны карузлікамі, —*
*прыжыццёвы помнік*
*мне і майму Палессю.*

***

*Дзяцел выдзёўбвае*
*рэшткі лета*
*ў другім месяцы*
*да нашай*
*зімы.*
*Дзюбай не выйшла,*
*каб займацца лесам.*
*Але як нашчадак дзятлаўкі —*
*бабулю так клікалі,*
*бо нарадзілася ў Дзятлавічах, —*
*выдзёўбваю*
*літары лета*
*ў другім месяцы*
*да нашай*
*зімы.*

***

*снег ідзе*
*над маёю*
*чырвонай царквою*
*над бажніцай з бажніцаў*
*і над дзедам Міколам*
*над бабуляй Надзеяй*
*над агеньчыкам «Беламора»*
*і чырвонай хусцінкай*
*і вазочкам*
*вы ўжо адчуваеце колер ягоны*
*у якім я ляжу*
*нібы цацка калядная*
*нібы свята для ўсіх*
*хто чакае Раства*
*паліцца печ у царкве*
*рыхтык у роднай хаце*
*нават цяжка паверыць цяпер*
*што гэтулькі болю*
*ў свеце*
*у краіне*
*і ў тых*
*хто нарадзіўся*
*ў Лунінцы*
*у харастве хараства*

***

*Геніяльны*
*genius loci**
*майго Лунінца*
*сёння не спіць,*
*ён сустракае мяне*
*з начнога цягніка*
*і вядзе*
*найпрыгажэйшай вуліцай*
*майго свету,*
*хацелася б сказаць*
*да хаты,*
*але хаты няма,*
*хоць можна дайсці*
*да зніклага цэнтру сусвету*
*і вярнуцца*
*да замкнёнай царквы*
*альбо пайсці далей*
*да адкрытага лесу,*
*у якім зусім не страшна*
*думаць пра лёс,*
*бо ў ім ёсць першая хата,*
*і першае каханне,*
*і першыя сонечныя промні,*
*у якіх genius loci*
*любіць слухаць*
*вершаваныя споведзі...*

** Genius loci (лац.) — геній месца.*

***

*павук*
*што жыве на краі*
*Лунінеччыны*
*Ма́е вабныя пёркі*
*лёгка заблытацца*
*ў ягоным павуцінні*
*вытканым з дзівосных колераў*

*а калі пёркі выпадаюць*
*ягоны гаспадар*
*дорыць пёркавыя букеты*
*і з кожнага пёрка*
*пазірае вока*

*няцотная колькасць вачэй*
*адпалохвае ліха*
*сваё і чужое*

*а ўсё таму*
*што павук-паўлюк-паўлін*
*з Багданаўкі*
*не лякаўся сваім хвастом*
*дакранацца*
*ні да зямлі*
*ні да неба*

***

*у пясках Палесся*
*колеру белага дня*
*і колеру адвячорка*
*гэтак добра*
*ісці*
*самому ў сабе*

*перасыпаць*
*перасыпаць*
*думкі і сны*

*ляжаць*
*ляжаць*
*ляжаць*
*жывому*

*і жывому —*
*пакуль цябе*
*памятаюць*

***

*не гарманічная*
*без імя*
*на глыбе граніту*
*з Мікашэвіцкага кар'еру*
*яшчэ не ўзарванай*
*не выдранай часам*
*разам са мною*
*гранічна чужою*
*натоўпу і адзіноце*
*я гарнуся да месца*
*у якім нарадзілася*
*да Лысай Гары*
*у яснай прасторы якой*
*мой развеецца прах*
*да гранічнасці просты*
*і тады ўжо ніяк*
*не парушу гармоніі*
*хіба папрашу*
*пасадзіць аронію*
*між елак і соснаў*
*для пеўчых*
*і чорных драздоў*

***

*аблачыны*
*плывуць на Палессе*
*каб праплысці*
*ракою Смердзь*
*каб усё зразумець*
*пра смерць*
*і жыццё па свеце*
*разнесці*

# «ІСПАНСКІ СОРАМ», або Без пафасу, таварышы!



Павел ЛЯХНОВІЧ

Ведаеце, што такое — «іспанскі сорам»? Гэта калі сорамна за іншых. Няёмка мне, калі бачу, як дзяды, хоць не настолькі старыя, каб быць ветэранамі Другой Сусветнай, надзяюць ваенную форму ды 9 траўня дэфіліруюць па вуліцах. Нібыта гэта яны з немцамі ваявалі. Або калі начапляюць медалёў, сярод якіх нават «Маці-гераіня». Ці калі былы палітработнік, што «курыраваў камсамол» у дывізіі падводных лодак, чапляе знак «Камандзір падводнай лодкі» (не ўзнагароджваліся палітработнікі гэтым знакам!). А яшчэ адчуваю сорам ад пафасных інтэрв'ю былых маракоў. Бо насамрэч служба падводнікаў — яна як сялянская праца. Колькі ні працуй, а ніколі ўсяго — так, каб закончыць і кропку паставіць — не зрабіць. Заўсёды ўперадзе новыя клопаты. Небяспечная праца — так. Дык і гарадскую вуліцу пераходзіць небяспечна. То распавяду крыху. Без пафасу.

***

Жоўты водбліск на нізкіх хмарах. Гэта не сонца, цяпер палярная ноч, гэта агні Севераморска, ён там, за сопкай... Падводны ракетаносец, пару гадзінаў назад прышвартаваны да плаўкрана, губляецца на фоне чорнай вады. Я вахценны афіцэр і мерзну на камандзірскім мосціку. Тупаю — адзін удар наском ялавага бота ў прыступку ля пеленгатара, адзін — падэшвай па палубе, потым адзін наском — два падэшвай. Бум-та! Бум-та-та! Бум-та! Бум-та-та! Жалеза звініць як літаўра, і не так маркотна. Я грукаю ботамі па жалезе і ўзгадваю...

У рубачным люку запыхцела, і на мосцік вылез зампаліт. Вылез у адной рабочай вопратцы і адразу завойкаў — марозік градусаў пад дваццаць, і ветрык метраў пяць у секунду...

— Ты, гэт-та, Аркадзь Пятровіч, не прамухай — тут да мяне генерал павінен прыехаць. З Галоўнага палітупраўлення, з Масквы. На лодках ніколі не быў, дзівіцца будзе. Як «Волга» на прычале з'явіцца, мяне высвіствай, я ў Цэнтральным...

Падла, але ж і холадна! Асабліва ногі мерзнуць. Анучы маракі не накручваюць, лічыцца непрыстойнасцю, а дзве баваўняныя шкарпэткі ў боце грэюць слаба...

Далёка на дарозе заскакалі фары. Можа, той генерал-масковец едзе... Экскурсант, шашок яго тата...

— Цэнтральны — мосціку! Зампаліт у вас?

— Тут я... Што — прыехаў? — Хрыпіць «Каштан», карабельная трансляцыя.

— Нейкія фары. Далёка яшчэ.

— Лячу!...

Захэкаўшыся, выпаўз на мосцік: «Дзе?» — У «канадцы» і ў футравых нагавіцах. На пінгвіна падобен. Няблага экіпіраваны. Я пра такія нагавіцы толькі чуў, а бачу ўпершыню.

— Ты ж глядзі, не забудзься «Смірна!» падаць! — Пакліпаў на ракетную палубу, трап з плаўкрана туды кінуты.

— Не забудуся...

Ідуць. Зампаліт наш ажно прыгінаецца і ў твар генералу зазірае. Знізу ўверх. Цяпер ужо не на пінгвіна падобен, а на фазана, што ў траву шыецца. Спусціліся з ракетнай палубы ў агароджу рубкі.

— Дзе мне распранушча? Але ж тут і холадна!

О-о! Ды ён зусім цёмны, генерал. Няўжо ўсур'ёз думае, што ўжо ў падводны карабель трапіў?

— Не-не, ташш генерал! Вось сюды, калі ласка. Асцярожна, трымайцеся за поручань. — Лісілівым голасам, куды толькі падзелася заўсёдная замаўская самавітасць. На мосцік вядзе. Два «павукі» на пагонах, генерал-лейтэнант. Лампасы, светла-шэры шынель, каракулевая папаха з чырвоным верхам, позірк востры, калючы.

Прадстаўляюся: «Таварыш генерал-лейтэнант, вахценны афіцэр капітан-лейтэнант Муляр!»

Цесна на мосціку. Я на прыступцы стаю, а генерал ніжэй, больш месца няма. Якраз вачыма насупраць расхінутых кліноў.

— Муляр... Бач ты, яўрэі — і на стратэгічных служаць... — нібыта сам сабе мармыча генерал.

— Служаць, таварыш генерал-лейтэнант! Толькі я не яўрэй, я — беларус. «Муляр» — па-беларуску «каменшчык», — кажу я.

— Спадзяюся — не «вольны муляр»! — гарэзліва прыжмурвае вочы генерал. — Вам не горача, капітан-лейтэнант Муляр?

(Жартаўнік... Ах ты, хахуля маскалідонавая! Сам бы тут пастаяў пару гадзінак!..)

Зампаліт лісліва хіхікае і цісне на педаль «Каштана»: «Цэнтра-а-альны! Мосціку! — Ёсць Цэнтральны! — Праверка сувязі!» — і кідае на генерала позірк, поўны трыумфу.

Гэта ён дэманструе высокаму палітработніку сваё валоданне складанымі тэхнічнымі сродкамі.

— Дзе мне распранушча?

— Зараз распранецеся, ташш генерал! Вось сюды спусцімся. Дазвольце, я наперад. Буду, так сказаць, страхаваць...

У час экскурсіі натрапіў генерал на Шурку Кучара па мянушцы «Чалавек без дзяцінства». Шурка — адзін з тых апошніх гаротнікаў, што з пятага класа былі нахімаўцамі. Апошні набор. Пасля сталі браць з дзявятага. Так што са сваіх дваццаці васьмі гадоў Шурка сямнаццаць — у шынялі. І вось свідруе генерал вачыма-калючкамі Шуру, а той выцягнуўся «смірна» і прадстаўляецца:

— Таварыш генерал-падпалкоўнік, камандзір групы... капітан-лейтэнант Кучар!

Генеральскія калючкі ператвараюцца ў сподкі:

— Штосьці я не разумею... — жаласна мямліць ён, а з-за яго спіны зампаліт паказвае Шурку кулак. — Ці то вы мяне павысілі, ці то панізілі?.. Гм... Генерал-падпалкоўнік... Ну, будзем лічыць, што павысілі. Бо падпалкоўнік жа вышэй за лейтэнанта?! Так жа?! Дзякуй, капітан!

Шурка потым, у час разбору «палётаў», апраўдваўся — ведаў толькі, што калі тры «павукі», то гэта генерал-палкоўнік. А тут — два! Ну і, маўляў, шляхам нескладанай логікі вылічыў.

Дуркаваў, мабыць? А мо і не...

Яшчэ генерал меў гутарку «за жыццё» з матросам трэцяга года службы Асташкіным. Разняволенасць простага матроса, адсутнасць трапятання, ягоныя разгорнутыя сказы ў гутарцы з ім генерала здзівілі:



Фота shutterstock.com

— А што гэта вы, таварыш матрос, гэтак смела са мной размаўляеце? Нібыта кожны дзень з генераламі зносіцеся?

— Чаго баяцца, таварыш генерал? Танк клапа не раздушыць!

Барыс Аляксандравіч ледзьве прытомнасць не страціў ад такога адказу, але генерал вытрымаў паўзу і засмяяўся. Яму дробненька падхіхікнулі «суправаджаючыя асобы»: зампаліт з партыйным сакратаром экіпажа.

Штурманскую рубку генерал наведаў, там у гэты час камандзір штурманскай баявой часці знаходзіўся. Прадставіўся і пачаў генерала лічбамі здзіўляць, параметрамі навігацыйнага комплексу, сярэднеквадратычнымі памылкамі, квазікаардынатамі... У таго ад намагання нешта зразумець ажно вочы да пераносіцы. Але пачуў больш-менш знаёмае слова і перабіў: «Таварыш штурман, а навошта падводнаму чаўну курс?»

Тут у штурмана вочы перакасіла. Гэта ж трэба генералу пачаткі навігацыі выкласці, ды пажадана ў трох словах. Пакуль паўзу трымаў у спробе сфармуляваць, вуснамі плямкаў, сам генерал выручыў: «Мабыць — каб не заблудзіцца ў моры?»

— Уф! Дакладна так, таварыш генерал! Каб не заблудзіцца!

Потым генерала кармілі ў кают-кампаніі запечанай куркай, паілі «Рыслінгам» і дарылі эбанітавы макет падводнага крэйсера. Але я ўжо змяніўся і дрых на цеснай канапцы ў штурманскай рубцы. У каюту не пайшоў — каб меней турбавалі.

***

Пятро Мікалаевіч Марцін, з націскам на «а», камандзір ракетнай баявой часці, да ракетна-ядзернага монстра праслужыў вельмі шмат дзе (усё на «жалезе»!), нават на сумнавядомай «Хірасіме», была такая лодка з гаротным лёсам. Выслужыў дзве буйныя зоркі на пагон, чатыры шаўроны на рукаво, стаж на пенсію.

— І хто твой татка, сынку? — цікавіўся ён у маладых, толькі з градкі, лейтэнантаў. Потым прагназаваў: — Од сохі... До сохі і вэрнэшся, сынку. На флоце — як у Індыі. Дзіты гімновоза нэ могуць буты брахманамі.

Або:

— О, як! Добры струмэнь тобі в транэц! Можэ, флотоводцом будэш...

Найшчырэйшай мрояй Пятра Мікалаевіча была мроя пакінуць карабель і служыць на беразе. Каб «ад» і «да»... каб два выхадныя (і не так, як на «бідоне» — адзін зімою, адзін улетку, а па-сапраўднаму: два на тыдзень), каб тэлефон у кватэры і — у якасці трызнення — каб службовы УАЗік з кіроўцам. Але гады ішлі, караблі мяняліся ад дызялюх да атамных крэйсераў-ракетаносцаў, колькасць аўтаномак пераваліла за трыццаць, экіпажная моладзь за вочы называла яго «старым, як дзярмо мамантa» (гэта саракагадовага!), а мроя ніяк не хацела спраўджвацца.

...Пасля пад'ёму сцяга аб'явілі «вучэбную трывогу» і пачалі грузіць ракеты.

На прычальную сценку прыязджаў ракетавоз, расчынялі пенал-кантэйнер, у якім ляжала, як дарагая сігара, вялізная ракета. Яе падымаў плаўкран, вывешваў над гарбатай тушай, і яна павольна запаўзала ў адчыненую шахту. Працэсам кіраваў Пятро Мікалаевіч, дапамагаў яму Шурка Кучар.

Мароз з учарашняга ўзмацніўся, і Пятро Мікалаевіч напераменку з Шуркам спускаліся ў корпус грэцца. Шахт на «параходзе» шаснаццаць, працэс пагрузкі няхуткі, і Пятро Мікалаевіч у час чарговага візіту ўніз кульнуў паўшклянкі спірту. Звычайная справа — мароз жа!

Спірту на «бідоне» шмат. Падводны карабель — складанае інжынернае збудаванне, пранізанае шматлікімі кіламетрамі электракабеляў, напіханае тысячамі электрапрыбораў і машын, і тым спіртам асобівы склад павінен прамываць электрычныя кантакты. Насамрэч беднаму электраабсталяванню дастаюцца ад усёй спіртовай ракі мізэрныя адсоткі. Найбольшы паток, можна сказаць, рака — цячэ ў тылавыя даволь-чыя вонганы і ў каністры-біклагі-пляшкі розных правяральшчыкаў-падганялаў са штабоў. Невялічкі ручаёк струменіцца карабельным афіцэрам. Тут чым цяжэйшыя пагоны, чым большы тэрмін службы — тым значней цурчыць. Зусім кроплі, ды і то выпадковыя, дастаюцца матросам. Электрычным кантактам — астаткі.

Кульнуў, значыць, Пятро Мікалаевіч паўшклянкі для цяпла — і наверх, там чарговая ядзерная ялда над ракетнай палубай завісла, а тут намеснік камандзіра дывізіі прыпёрся. І няўдала стаў Пятро Мікалаевіч — на вецер ад намесніка камдыва. З начальствам трэба як на паляванні: ад звера — пад вецер станавіцца, але галоўны карабельны ракетчык даўно пакінуў гэтыя прыёмы маладзейшым. Лічыў іх ніжэй сваёй годнасці. Калі пенсія ўжо зароблена, можна асабліва не асцярожнічаць.

Унюхаў адміральскі намеснік, бровы пад брыль заехалі, у іх, у «капразаў», капітанаў першага рангу, значыць, шапка з брылём. Называюць яшчэ «шапка з ручкай». Вочы выкаціў:

— Ды вы — п'яны!

— Нычого я нэ п'яны... Холодно ж — шчэ на морозі богато стояты...

— Я вам забараняю грузіць ракеты! Я вас адлучаю ад кіравання баявой часткай! Кучар! Капітан-лейтэнант Кучар — прымаеце камандаванне ракетнай баявой часцю! А вам, таварыш капітан другога рангу, забараняю сыход з карабля. Вернецеся ў базу — будзем разбірацца!

— Шо? Ты мэні забороняеш сыход? Стряляй у спыну! — Пятро Мікалаевіч спусціўся ў каюту, змяніў спецвопратку на форму, і яго чорны шынель растаў у імгле палярнай ночы. Астатнія ракеты грузіў Шурка.

З'явіўся Пятро Мікалаевіч толькі праз тры дні, ужо на базе. І што? А нічога! Пайшоў у аўтаномку як міленькі. Праўда, са спагнаннем «за нетактоўныя паводзіны з начальнікам». А пасля аўтаномкі быў спісаны з карабля і прызначаны памочнікам начальніка штаба. З тэлефонам у кватэры, са службай «ад» і «да», з двума выхаднымі на тыдзень і нават з УАЗікам! Казаў: каб ведаў, як проста пакінуць абрыдлае «жалеза», адмовіўся б ад тактоўнасці яшчэ гадоў дзесяць таму.

Заканчэнне на стар. 7 »

# «ІСПАНСКІ СОРАМ», або Без пафасу, таварышы!

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6


Фота depositphotos.com

***

Аўрал на стратэгічным падводным чаўне. Памочнік камандзіра — ён жа і начальнік службы «С» — забеспячэння — узмакрэлы і заклапочаны. Пагрузка прадуктаў. Сто трыццаць чалавек трэба карміць дзевяноста сутак. І яшчэ запас мець на ўсялякі выпадак. Мічман, па мянушцы «Крывадуй», інтэндант экіпажны, на КамАЗе матыляецца туды-сюды. Ад складоў харчовых да монстра ракетна-ядзернага. Матросы разгружаюць грузавікі і спускаюць прадукты ў дзве трубы — рубачны люк і люк пятага «біс». На прычале расце гара тары — кардонных і драўляных скрынак, бочак і ўсяго, што не праходзіць у люкі.

Каб прадукты не пакралі, за матросамі прыглядаюць афіцэры. Дарэмна. Шмат рознай смакаты ўсё роўна трапіць у карабельныя схованкі-«шхеры», якіх незлічонае мноства. Учора зампаліт на камсамольскім сходзе салаўём заліваўся, распавядаў, як партыя камуністаў пра абаронцаў радзімы клапоціцца. Асабліва націскаў на выключнасць харчовых нормаў для падводнікаў. Тут і чырвоная ікра, і віно, і шакалада, і… рознае. Толькі лётчыкі, казаў, могуць з падводнікамі асартыментам раўняцца. І што красці прадукты — злачынства перад радзімай і апошняя справа, «западло».

Замуля ў гады лейтэнанцкага юнацтва на зоне служыў, там і ўзбагаціў лексікон. Ім, палітработнікам, прадстаўнікам арганізуючай і кіруючай сілы, без розніцы, дзе гэтую сілу прадстаўляць — хоць на зоне, хоць у танку, хоць на распрацоўцы цалінных земляў…

Камсамольцы слухалі Барыса Аляксандравіча з каменнымі тварамі, і толькі Закір Аліеў, трумны, прабурчэў нешта накшталт таго, што калі маёмасць усё роўна належыць экіпажу, то красці ў сябе нельга.

«Што ты сказаў, Аліеў?» — «Нічога…»

…Чарговы КамАЗ exaў-exaў на прычал ды і з'ехаў з дарогі ўбок, за скалу, там яго ўжо тры «Жыгулі» чакаюць, інтэндантавы сябры-калегі з суседніх экіпажаў прыехалі. Хуценька перакідалі ў легкавікі найбольш далікатэснае ды і развезлі па гаражах. А матросу-кіроўцу КамАЗа — каб язык трымаў на шворцы — літр спірту ды дзясятак бляшанак тушонкі.

Хуценька аперацыю правярнулі, ніхто і не заўважыў невялікую затрымку. А што? Падводнікі ў аўтаномках рухаюцца мала, вялікага апетыту не маюць. Ніколі ўсяго не з'ядуць. Нават даводзіцца крупы разам са смеццем за борт выдаляць, бо калі паказаць, што не ўсё спажылі, што па нормах належыць, то нормы зменшаць. Каму гэта трэба?

***

Заўтра раніцою выходзім на баявую службу, як тут кажуць — «за кут». Афіцэраў і мічманаў адпусцілі дадому сабрацца-развітацца. Мы з Сяргеем, суседам па пад'ездзе, прыехалі «вячэрнім скатавозам» (тэнтаваным грузавіком). Пасля кантрольнага выхаду наша «жалеза» паставілі не ў родную базу, а сюды, бліжэй да штабу флатыліі.

Сцежкай, пратаптанай праз сопку — гэтак карацей — ідзем на карабель. Вецер сячэ калючымі сняжынкамі твары, даводзіцца падняць каўняры шынялёў і прыкрывацца далонямі…

— Давай перадыхнем, — просіць захэканы Сяргей. — Ляціш, як лось…

Паставілі на снег валізкі з «аўтаномачным наборам». Агледзеліся. Да дзясятага пірса, дзе прытуліўся наш «параход», яшчэ з кіламетр. Зверху падводны крэйсер выглядае нібыта цацачны. І нават прыгожы страшнаватай прыгажосцю.

— Чытаў я, як маракі нечага апынуліся на беразе, а тым часам карабель падрываецца і тоне ў іх на вачах. А яны клянуць лёс ды імкнуцца загінуць разам з таварышамі… — кажа раптам Сяргей.

— Што за лабуду ты чытаеш? — смяюся я. — Ці не ў зампаліта разжыўся? Выйдзем у мора, як усё наладзіцца, дам табе прыстойную кніжку. Узяў з сабою. Перакладная, з чэшскай, здаецца… «Псіхагігіена палавога жыцця». Сяброўка з мацерыка прыслала, аднакласніца. Дурында. З-за яе падарунка пад падазрэнне ў жонкі трапіў. Сам не чытаў яшчэ. Так, пагартаў. Цікавая… Можа, удасца і мне пачытаць. Хоць, хутчэй — не. Штурманскі лёс — ні хвілінкі вольнай…

— Неверу! — Сяргей не слухае мяне, зацята сціскае зубы. — Не веру! Каб гэтае вось жалеза ўзяло і патанула, пакуль мы з табою тут — я б з радасным віскам развярнуўся б і пабег дадому, у сям'ю. Як можна любіць гэтую бяздушную бочку? Я яе ненавіджу!

Я прамаўчаў. Нечакана Сяргей сфармуляваў і мае пачуцці, у якіх я ніколі не прызнаваўся нават сабе.

***

Яшчэ месяц не прайшоў, як мы ў аўтаномцы… Камандзіра на экіпажы за вочы клічуць «Мікалай Крывавы». Крыклівы, нярвовы, чапляецца да ўсялякай драбязы. Папярэдняга называлі «Пан». Перавёўся на бераг, а замест яго — вось гэты. З паўгода таму рыхтаваўся здаваць «штурманію» на допуск да кіравання караблём, зайшоў у штурманскую:

— Таварыш капітан-лейтэнант, атрымайце ў сакрэтчыка алгарытмы навігацыйнага комплексу і перадайце мне.

А гэта таўшчэразная кніжка, і ў ёй матэматычныя формулы — адна формула на тры-чатыры старонкі.

Разгарнуў, а там інтэгралы, лагарыфмы, дыферэнцыялы, трыганаметрычныя функцыі… На ўсю старонку. Чытэльнага тэксту, можа, дзясятак слоў. Глядзеў туды хвіліны дзве. Загарнуў, уздыхнуў: «Што такое сінус, памятаю, здаецца, а што — арккосінус, хоць страляй…»

На гэтым скончыў вывучэнне алгарытмаў. Нічагусенькі, допуск атрымаў!

А перад аўтаномкай паліць кінуў. І адразу пачаў барацьбу з курцамі ў экіпажы. Раней як: ёсць вольная хвілінка — збегаў у пяты «біс», у курылку, яна насупраць лазарэта, пасмаліў. А тут увёў кэп расклад, ды такі, што адразу ля дзвярэй курылкі чэргі пачаліся. Ключ карабельнаму доктару, і асабіста сочыць, каб адчыняў курылку «ад» і «да». Што хоча гэтым дамагчыся — невядома…

Васямнаццатага студзеня. Я толькі на вахту заступіў. А хвілін праз пятнаццаць аварыйную трывогу зазванілі. Звычайная рэч, можа, дзе які прыбор перагрэўся, засмярдзеў паленым. У такіх выпадках кожны, хто ўнюхаў, аварыйную аб'яўляе. Нічога, калі дарэмна, лепей сто разоў дарэмна па трывогах пабегаць, чым адзін раз фактычную прапусціць.

Камандзір штурманаў прыйшоў. Зачыніў дзверы, удакладніў, ці ўсе нашы прыбеглі, даклаў а Цэнтральны пост, маўляў, бэчэ-раз да бою гатова. Потым дастаў з сейфа журнал баявой падрыхтоўкі, запаўняць пачаў. Чаго час дарэмна губляць, калі ўжо затрывожыліся? Такіх трывог даволі шмат бывае — прывыклі ўсе.

Яшчэ праз нейкі час я гірапост пра сітуацыю пытаю, проста так, фармальна, бо нешта доўга адбою трывогі няма, а адтуль адказ:

— Сітуацыя шызая…

А яшчэ праз зачыненыя дзверы з Цэнтральнага паста ў рубку нейкія трывожныя галасы даносяцца.

Адчыняю дзверы ў Цэнтральны, а там насамрэч шыза ад дыму. І вахценны механік камандзіра пераконвае, што трэба ЛОХ на адсек даваць. Гэта сістэма пажаратушэння. Праз адмысловыя фарсункі адсек фрэонам запаўняецца, а той імгненна ўвесь кісларод звязвае ў паветры.

— Рыгоравіч, — кажу начальніку непасрэднаму, — здаецца, у Цэнтральным вырашылі ЛОХ даваць. Трэба ІДА надзяваць, пакуль не позна.

ІДА — гэта індывідуальны дыхальны апарат. 1959 года «нараджэння». Ад знешняга асяроддзя ізалюе, а вось як у ім па трансляцыі перагаворвацца?.. Там маска з загубнікам, падносіш мікрафон — і «бу-бу-бу…», а ў адказ таксама «бу-бу-бу». І шкельцы маскі запацелі, не бачна нічога. А працаваць жа трэба — з картаю, з навігацыйным журналам, з прыборамі. Нахіліўся над картай, і тут тугі ўдар у плячо — з фарсункі струмень фрэона садануў. Выклікаю гірапост, але, як ужо адзначыў — «бу-бу-бу», і ніякай інфармацыі.

Калі коратка — пяць чалавек ад фрэону пацярпелі, не паспелі своечасова «сродкі абароны органаў дыхання» надзець. З іх двое — мае падначаленыя. Ім у гірапост каманда не прыйшла, што ЛОХ даюць — той, хто павінен быў праз трансляцыю ім паведаміць, з адсека ўцёк.

Гайданула карабель, я нейкую шчыліну на запацелым шкле маскі знайшоў, на глыбінамер паглядзеў — о, мы ўжо ў надводнае становішча ўсплылі! Вентыліраваць адсекі атмасферным паветрам пачалі. Гадзіну і трыццаць дзве хвіліны ў надводным стане знаходзіліся. Я выйсці на мосцік дазволу папрасіў — калі яшчэ можна будзе ўвачавідкі Нарвежскае мора ўбачыць? Цёмна. Ціха. Неба, відаць, хмарнае, бо зор не бачна. Вада чорная, з белай пенай бурунаў. І ніводнай ільдзінкі — Гальфстрым не дае вадзе замерзнуць.

Пакурыў хуценька, тут наш «Мікалай Крывавы» каманду ўніз даў. Спусціўся, а ў Цэнтральным весела. Усе, як звар'яцелыя, смяюцца. Жартуюць і смяюцца.

Пагрузіліся і далей — па маршруце. У трэцім адсеку пах гарэлага і фрэону яшчэ некалькі месяцаў стаяў.

А гарэў вугальны фільтр у гальюне. Там дзверы ў гальюн, а побач — дзверы ў вентылятарную выгародку. Фільтр гарыць у гальюне, а дым з вентылятарнай ідзе. А ўся вентылятарная скрынкамі з ЗІПам і бляшанкамі з рэгенерацыяй застаўлена. Пачалі выкідаць скрынкі — дзверы гальюна завалілі, што не адчыніць. Так і не знайшлі, дзе гарыць, таму і ЛОХ давалі. Каб знайшлі, фільтр пенай залілі б. Але ж гэта «каб»…

Контрвыведчык, іх у кожную аўтаномку прыкамандзіроўваюць, у гумовых пальчатках сметніцу з гальюна перабіраў, знайшоў сярод паперак некалькі недакуркаў. Выснову зрабіў такую, што нехта курыў у гальюне, а недакурак, відаць, у фільтр ткнуў. А мо іскра заляцела. А там вугаль…

Хутчэй за ўсё, з-за строгага раскладу выкарыстання курылкі пачалі курцы гальюнамі карыстацца.

Хто курыў? А хто ж прызнаецца? Так і не знайшлі. Ды і не шукалі асабліва…

Зампаліт партыйны сход склікаў. Камуністы «палёты разбіралі», таму-сяму пакаранні аб'яўлялі. Я не ўдзельнічаў — на вахце стаяў.

Афіцэры і мічманы вырашылі: вернуцца дадому — жонкам ні слова пра пажар, пра ЛОХ, пра атручаных. Няма чаго паплечніцам нярвовую сістэму псаваць.

…Тыдзень, як вярнуліся. Жонка на мяне накінулася: «У цябе хоць каліва сумлення ёсць? Што ў вас там было, у аўтаномцы? Усе ў пасёлку ўсё ведаюць, жонкі з нашага экіпажа абмяркоўваюць, і толькі я адна — як апошняя дурніца! — нічога не разумею!»

***

Зноў пра гераічны пафас згадаю… Праз трыццаць тры гады прыйшоў мне мэйл ад Рыгоравіча, ну, што па аварыйнай трывозе журнал баявой падрыхтоўкі запаўняў: «Пачытай, якое інтэрв'ю наш «Мікалай Крывавы» пра той пажар наплёў. Набяры ў пошукавіку «Пажар пад вадой».

Прачытаў, натуральна. Ой-ёй! Там і «магутны пакавы лёд», які човен ламаў корпусам. І матрос-сірата-падпальшчык, якога знайшлі, хацелі судзіць, а потым даравалі. І нават птушкі ў каюткампаніі, якія гінулі ад атручання! Шмат чаго, каб той «героікі» падсыпаць.

Невядома толькі — ці гэта фантазія Чаркешына, інтэрв'юера, ці камандзіра? Спадзяюся, што Чаркешына, бо тады мяне меней «іспанскі сорам» ахоплівае.

Не было аніводнай дрэйфуючай ільдзінкі, не кажучы ўжо пра «пакавыя ільды». Усплылі спакойна, без перашкодаў. Ніводнай надводнай «цэлі». Ніякага матроса-курца-падпальшчыка не знайшлі. Калі нават і шукалі. Ды і не факт, што гэта менавіта матрос быў. А ўжо пра птушак у «цэнтры адпачынку», у каюткампаніі, значыць, — дык гэта трэба ого-го якую фантазію мець! Не было ніколі на тым «жалезе» ніякіх жывёлін. Калі толькі прусакоў не лічыць, тых было багата. Пры дэзінфекцыі па дзесяць-дванаццаць вёдраў выносілі на бераг.

А якія каментары да гэтага «Пажару пад вадой»! Уключна да «…а давайце подпісы збіраць, каб камандзіру героя…»

А што? Могуць і выпрасіць…

# Прозд*умы*-2, або Пажывем — пабачым



Вадзім ЖЫЛКО



***

Школа, куды я некалі пайшоў у першы клас, месцілася побач з нашым домам. Вуліцу перабег — і ты на ўроках. У адным трохпавярховым будынку вучыліся ўсе класы, ад першага да дзясятага. Што праўда, у дзве змены. Але ж неяк хапала месца.

Міналі дзесяцігоддзі, і пабудаваная гадоў праз 15 пасля вайны школа перастала адпавядаць сучасным стандартам, зрабілася цеснаватай. Пачатковыя класы перавялі ў іншы будынак, хвілінаў з пяць хады. Сваёй сталоўкі школа не мела, таму дзеці штодзень хадзілі ў гарадскі рэстаран, дзе адна з залаў была прыстасаваная для харчавання вучняў. Я, праўда, да таго часу школу ўжо скончыў, таму бясплатна пахарчавацца, на жаль, не давялося. Бясплатна — бо наш раён прызналі «чарнобыльскім» і ўвялі адпаведную ільготу. Але праз колькі гадоў пасля мяне школу скончыў мой малодшы брат, дык яго такое новаўвядзенне закранула.

А летась жыхары горада даведаліся, што да школы ўзвядуць прыбудову. Усе класы зноў збяруцца разам. Будзе свая сталоўка і шмат яшчэ чаго… І будаўнічыя работы закіпелі. Стары трохпавярховы корпус пазбавілі дзвюх аднапавярховых прыбудовачак. Затое ўзвялі шэраг новых карпусоў. У адзіным стылі. Ранейшая школа «знікла» сярод іх, цяпер яна займае пятую ці нават шостую частку створанага комплексу. Пабудовы занялі амаль увесь ранейшы школьны двор разам з невялікім стадыёнчыкам, які таксама знік. Усе фасады, сцены выглядаюць цяпер па-новаму. Нават галоўны ўваход — праз іншы корпус, а старыя дзверы і частку вокнаў замуравалі.

І падумалася: каб «знік» нейкі будынак, часам зусім не абавязкова яго знесці, руйнаваць. Дастаткова «растварыць» у прыбудовах.

Хай цяперашнія дзеці вучацца і харчуюцца ў палепшаных умовах. Але тую нашу ранейшую школу, цесную ды ўтульную, усё адно шкада.

***

Ведаў у нашым горадзе аднаго не старога яшчэ мужчыну. Урэшце, ведалі яго многія, бо займаў даволі высокую пасаду. Хадзіў, як кажуць, з ганарліва ўзнятай галавою. Ды так сталася, што праштрафіўся і быў з пасады зняты. Казалі, што нават ледзь яго не пасадзілі.

І перасталі заглядваць у вочы ранейшыя ліслівцы. Наадварот, можна было пачуць шмат зларадных водгукаў. Выпадкова стаў сведкам дыялогу паміж дзвюма жанчынамі:

— Ведаеш, як у тым анекдоце, нічога не магу сказаць пра яго дрэннага. А добрага — яшчэ меней.

— Твая праўда. Гэта ж учора сын мой прыйшоў з працы і кажа: «Я таго начальніка не ведаў асабіста, але здзівіўся, што ніхто пра яго добрага слова не сказаў».

Вось такое «падсумаванне» бурлівай шматгадовай дзейнасці.

Дарэчы, жонка таго былога кіраўніка займала таксама не зусім шэраговую пасаду. Не знаю, як і што, але звольнілася амаль адначасова. А былыя калегі саркастычна зазначылі:

— Гэта ж так хутка звальнялася, што нават кубак з-пад гарбаты не паспела памыць.

Як кажуць, без каментарыяў.

***

Як вядома, хрысціянства раіць вернікам, усім людзям ставіцца да іншых па-добраму, прынамсі, без злосці. І шмат якія сучасныя «псіхолагі» ды «трэнеры-коўчы» не абыходзяць тэму «пазітыўнага мыслення». Здавалася б, парады амаль супадаюць. Але не заўсёды.

Ведаў адну даволі маладую і прывабную жанчыну, якая вельмі ж захапілася гэтым пазітыўным мысленнем. Праўда, характар, як і раней, застаўся ў яе, скажам так, няпросты.

І неяк адзін наш агульны знаёмы пажартаваў:

— Ты сапраўды жанчына пазітыўная. Бо ўвесь негатыў, як той карабель ваду, разганяеш перад сабою ва ўсе бакі. На іншых людзей.

***

А гэты выпадак стаўся пад час размовы з другой пазітыўнай жанчынай. Скардзілася на свайго калегу, узнагароджваючы яго рознымі не надта прыемнымі эпітэтамі.

Жартам, але з сур'ёзным выглядам кажу ёй:

— Ты ж жанчына з пазітыўным мысленнем, розныя курсы ў інтэрнэце праходзіла. Значыць, павінна казаць пра іншых людзей, што яны добрыя…

Суразмоўніца сумелася, ды толькі на нейкае імгненне:

— Так, чалавек ён добры. Але сволач тая яшчэ!

***

Ведаю, праўда, збольшага звонку, а не асабіста, адну сямейную пару. Абое даўно на пенсіі, раней працавалі ў адной сістэме. Жонка заўсёды ветлівая, інтэлігентная. Муж жа, шчыра кажучы, хамаваты. Так бы мовіць, «мужлан».

Але ж столькі гадоў пражылі ў згодзе, вырасцілі дзяцей, маюць унукаў.

Міжволі задумваешся: як жа яны знаходзілі паразуменне, такія розныя?

І прыходзіш да высновы, што нейкі «паяднальны» фактар быў мацнейшы за ўсе адрознасці ў характарах. Аптыміст скажа, што яны, напэўна, моцна кахалі адно аднаго. А песіміст можа і па-іншаму падумаць. Магчыма, не такія ўжо яны былі розныя. Проста жанчына лепш умела хаваць свае прыродныя схільнасці. А сама, не выключана, характарам не адрознівалася ад мужа. Хто ведае…

***

Псіхалогія сучасная, на мой дылетанцкі погляд, гэта ўвогуле цёмны лес. Паспрабуй зазірні ў душу іншага чалавека! Тым больш, што некаторыя спецыялісты ўвогуле не закранаюць паняцце «душа», быццам яе не існуе. Хоць тая ж «псіхалогія» перакладаецца як «навука пра душу». Даволі часта ўсё зводзіцца да псіхікі, да дастаткова простых рэакцый, сукупнасць якіх умоўна называецца «душою». Але ж такая душа ёсць нават у жывёлаў.

У хрысціянстве, што праўда, кажуць не пра два «кампаненты» чалавека (цела і душа), а пра тры (цела, душа і дух). Менавіта наяўнасць духу, які імкнецца (ці павінен імкнуцца) да Бога, да нябёсаў, адрознівае чалавека ад жывёльнага свету. Іншая справа, што ў некаторых людзей дух гэты застылы, нібы спіць. Такім людзям, здаецца, дастаткова больш простай «душы» з яе рэакцыямі.

Неяк прачытаў у аднаго мудрага старца павучэнне: «З духоўным чалавекам гавары пра дух, з душэўным — пра душу». Такая вось атрымоўваецца іерархія…

***

Могілкі ў нас размешчаны за горадам. Так і кажуць у народзе: «шосты кіламетр». Цяпер, праўда, яны пашырыліся, таму гаворка ідзе ўжо пра «сёмы кіламетр».

Трапляючы туды, бачыш, якія розныя помнікі. Дзесьці (рэдка) іх увогуле няма. Дзесьці — зусім сціплыя. А недзе — сапраўдныя «маўзалеі».

Адзін знаёмы, чалавек у горадзе далёка не апошні, збудаваў велічны помнік памерлай жонцы. Заняў тры або нават чатыры ўчасткі. Сапраўдны мемарыял…

З аднаго боку, магчыма, гэта праява кахання. Наколькі ведаю, ён сапраўды вельмі любіў жонку, ды яна пайшла з жыцця ад невылечнай хваробы.

З іншага боку, міжволі думаеш, ці патрэбны тым, хто ў іншым свеце, такія мемарыялы.

Адказ відавочны.

***

Адзін знаёмы, чыгуначнік на пенсіі, неяк выбраўся ў далёкую заакіянскую краіну да сваякоў. Вярнуўшыся, распавядае сябрам пра вандроўку. І сярод іншага кажа:

— Я спытаў у сваякоў, ці можна тут дзесьці падзарабіць. І яны прапанавалі суседзям, што я магу пафарбаваць ім плот. Суседзі спыталі, хто я па прафесіі. А сваякі мае не дурныя. Кажуць: ён маляр з вялікім стажам. Ну, тады хай фарбуе. А каб даведаліся, што я былы машыніст, то адмовілі б. Сказалі б: няхай водзіць свой паравоз.

***

Знаёмы мужчына шмат гадоў выпісваў адну газету. У газетах жа звычайна на кожнай старонцы — свае тэматычныя рубрыкі, якія могуць паўтарацца з нумара ў нумар.

Чамусьці знаёмцу падабаліся амаль усе старонкі, апрача адной. Неяк не імпанавалі яму ці то аўтар гэтай рубрыкі, ці то сэнс змешчаных матэрыялаў. Не аднойчы казаў мне:

— Вось усе старонкі добрыя, апрача восьмай.

Давялося параіць:

— Напішы ў рэдакцыю, каб пасля сёмай старонкі друкавалі адразу дзявятую.

Ці скарыстаўся ён парадай, не ведаю.

***

Уступіў я ў Вайберы ў адну групу, дзе людзі змяшчаюць аб'явы пра продаж або пакупку розных рэчаў. І не толькі. Цікавяцца паслугамі, прапануюць жадаючым аддаць коцікаў ды сабачак і гэтак далей. Група карысная.

Толькі вось з пісьменнасцю ў некаторых удзельнікаў складанасці. Добра яшчэ, калі чалавек усведамляе свае хібы і хоць бы ўласных дзяцей хоча падцягнуць вышэй ў гэтай справе.

Неяк чытаю: «Ищу репититора по рускаму». Побач адразу з'явіліся гарэзлівыя пасмешлівыя смайлікі. Аўтар аб'явы праз нейкі час напісаў, што не бачыць тут нічога смешнага і прапанаваў адміністратарам групы заблакаваць «гэтых гумарыстаў».

Спачатку я нават выпісваў з аб'яваў найбольш «удалыя» словы. Кшталту «ешчу» (гэта значыць «ищу»). А рэкардсменам дагэтуль лічу слова «жыньцы». Добра, што на фота побач былі джынсы, а то галаву можна зламаць.

***

Зрэдчас людзі даюць аб'явы пра продаж кніг. Збольшага розных вучнёўскіх дапаможнікаў, але сустракаецца і мастацкая літаратура.

Адзін чалавек увогуле сфатаграфаваў вялікія скрыні з кнігамі і напісаў, што прадае чатыры лоты, па 60 кніг у кожнай скрыні. Кошт лота — 20 рублёў.

У іншых больш сціплыя прапановы. Спадабалася адна з іх. Ведаеце, як часам пішуць: «Прадам сукню. Апранала адзін раз». Дык вось, адна дзяўчына выставіла фота нейкай мастацкай кнігі. Здаецца, дэтэктыва Агаты Крысці. З подпісам: «Прадаю кнігу. Чытала адзін раз».

Вось так «крэатыўненька» развітваемся паступова з кніжна-папяровай цывілізацыяй. А што чакае нас наперадзе? Пажывем — пабачым.

# Крыўда

## Старонкі аповесці



Алесь МІСУНА

Засценак, што каля былога панскага маёнтка, стаіць на бальшаку, цяпер ужо не такім бойкім, але ўсё яшчэ жывым. Па бальшаку, не зважаючы на белую шыльду з назвай паселішча, не збаўляючы хуткасць, праносяцца машыны. Рэдка каторая прыпыніцца. Чаго тут спыняцца?.. Аніякай патрэбы...

Калісьці ў панскім палацы была школа. Тады ў васьмігодку з навакольных вёсак штодня збіралася, іншы год, бывала, і пад дзве сотні, дзетвара. Настаўнікі, што пад кампанію ссялення хутароў пабудаваліся пры школе, жылі ў гэтым пастаянным гаме. І было гэта звычайным, бо настаўнікі, як і ўсе тутэйшыя людзі, трымалі гаспадарку, якая нічым не адрознівалася ад гаспадаркі якога-небудзь калгасніка. Бо як інакш, бо мясцовыя, бо без кароўкі ды парсючка, без агарода не выкруцішся. Адным словам, тут было, вітавала жыццё. І быў у тым жыцці смак. Адыходзілі і надыходзілі, мяняліся дні, і ў іхняй звычнай хадзе вечнага часу, хто пра тое задумваўся, бачылася будучыня...

І нічога не варажыла на благое.

Але раптам усё паламалася, пайшло адпаведна нейчаму нялюдскаму — не мог здаровы на галаву чалавек такога ўдумаць — плану. А, можа, і зусім не па плану, а проста так. Цягнік часу сыйшоў з рэек і пакаціўся абы-куды, рассыпаліся збітыя ў тугую чараду вагоны...

Кавалак сенакосу, што паставіў на мэту «паваліць» сёння, даваўся цяжка. Плошча невялікая — не больш пяці сотак, але сенакашаць... Сказаць непаддатлівая — нічога не сказаць. Такую пасля заборыстага мурагу, што на палянках паміж алешнікy ды каля лазовага кустоўя, каля светлых бярэзнічкаў ды асіннікаў, літовачка мая спрабавала ўпершыню.

Сёлета як ніколі: мурагі тыя не ўдаліся — засушыла з вясны, ды і потым дажджы не вельмі цешылі. Было відавочна, што патрэбную колькасць пошару з той дзялянкі, што ўжо колькі гадоў косім, сабраць не ўдасца. А трэба ж не адной кароўцы — яшчэ і на авечак, ды і цялушачку бацька хацеў у зіму пусціць. Кажа, што карова ўжо стараватая, мяняць трэба. Дык сваю выгадаваць куды як выгадней, чым купляць, як угадаеш, ці ўдойная, ды і грошы цалей будуць. Кароўка сваёй гадоўлі, менш, чым матка, малака даваць не будзе. Гарантавана. А старую потым можна запусціць, ялаўкай пакінуўшы, падгледзець, каб сыцей была, ды на мяса здаць — зноў жа капейчына будзе. Ды адным кавалкам — спарней.

Патрэба ў сене лічылася досыць проста — брыкамі. Пастаўленая на калёсы спаруда з адмыслова зробленых драбінак была мерай нарыхтаванага сена. Яшчэ дзед лічыў: на карову трэба дванаццаць брык, па брыцы на авечку ну і цялушачцы не менш паловы таго, што карове. Вот і выходзіць, што карове і цялушцы не меней, чым васямнаццаць. А колькі авечак? У зіму пакідалі звычайна дзве-тры ярачкі і баранчыка, каб за зіму пабегалі і налета прыплод бьуў. Вот і лічы, колькі таго пошару патрэбна.

У тарпу пакуль палажылі толькі адзінаццаць брык. Ну і на дзялянцы яшчэ брыкі на чатыры-пяць засталося. Рушыліся планы, не складваўся звыклы парадак, як кажуць эканамісты, «аднаўлення вытворчасці». Наадварот прастага, а тут жа бацька быў размахнуўшыся на пашыранае.

Словам, калі, загнаўшы ў вясковы гурт карову, бацька яшчэ на досвітку прыйшоў з навіной, узрадаваліся. Брыгадзір дазволіў «падчысціць» калгасны сенакос, — лапіны сеянай травы, што засталіся на асушаным балоце пасля касілкі. Там з трактарам ды гаргарай-касілкай, што да яго прычэплена, не ўсюды, асабліва па краях, улезлі. Вот і засталося. Касіце, кажа, бо прападзе ўсё роўна.

— Улада ці то палітыку распачала да людзей мякчэйшую, ці проста не спраўляецца з кантролем над гаспадаркай, — не спяшаючыся, на два бакі, мачаючы ў распушчанае масла гарачыя бліны, што маці адразу з патэльні кідала ў талерку на стале, казаў бацька. — Яшчэ пару гадоў таму і падумаць ніхто б не адважыўся, каб для сваёй кароўкі ў сеяную траву пусцілі. Строгасці пільнаваліся — у калгас не скарыстаюць, згніе, а чалавеку не дадуць. Было ж некалі, што каб сам улез, дык і пасадзіць маглі б. А цяпер во! Але нам што? Калі можна, дык і карыстацца трэба. І не адкладваць, бо людзі таксама драмаць не будуць.

Урэшце раздзяліліся. Бацька сказаў, што пойдзе «дзяўбсці» на дзялцы, бо на балота, а гэта куды далей, ісці няма калі. Туды пакуль зойдзеш, дык глядзі пару разоў касой махнуў і дадому трэба, — толькі пераходка.

Дарога, дзве калясіны і вытаптаная коньмі сцежка пасярод іх, сама кацілася пад ногі. З гары ісці куды лягчэй, што тут тлумачыць. А тут паўднёвы схіл Свянцянскай грады павольна спускаецца ў нізіну да вялізнага балота, частка якога з боку засценка і суседніх вёсак асушана. Дарога гэтая, па сёння завуць Жаўнераўская, калісьці была бойкая. Але кампанія ссялення хутароў абязлюдзіла досыць вялікі абсяг. І ў Жаўнераве толькі падмуркі, што засталіся ад былой гаспадаркі, нікога ўжо няма. Сям'я ў канцы пяцідзясятых неяк раптам з'ехала ў Польшчу, і не стала хлапчукоў, да якіх калісьці хадзіў гуляць. Толькі на ўзгорку, дзе стаяла хата, разлапушыўся язмін ды так, што ганка, выкладзенага з адмыслова падабраных камянёў, што помняць мае дзіцячыя ногі, ужо і не знайсці. На краю парапачка, акурат на беразе (ужо не ведаючы, і не пазнаеш, што ён тут быў) става вымахала высачэзная ліпа. Яна запомнілася. Наваколле пасля таго, як, арганізаваўшы калгас, абрэзалі соткі, а потым і ссялілі хутары, добра падзарасло кустоўем. Альховыя ды бярозавыя гаі, лазняк па незлічоных балотцах-сподачках без гаспадарчага вока запанавалі і за які дзясятак гадоўператварылі мясцовасць у досыць здзічэлую. Тут можна было хіба што насекчы дроў ды на рэдкіх палянках укасіць якую брыку сена. Вот тады ў нейкага начальства і прачнуўся дух рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Пераўтварэнні тыя занялі некалькі гадоў і скончыліся, як і шмат што іншае, нічым. Найперш на велікаватым, роўным, што ў нашай мясцовасці рэдка, полі кіламетры за паўтара ад засценка прызямліўся самалёт. Там яго запраўлялі нейкай атрутай, якую той шчодра ліў, лётаючы над нашым кустаўём. Тады казалі, што хадзіць у тыя кусты небяспечна, і раілі над садамі вешаць прымацаваныя да высокіх жэрдачак белыя кавалкі тканіны, каб лётчыкі бачылі і не палівалі.

Дзіцёнка хто ўпільнуе. Цікава — не ўтрываць, а да самалёта на тое далёкае поле не вельмі і дабяжыш. Тады жаўнераўская ліпа выручыла. Стромкая, ды яшчэ на пагурку, яна панавала над наваколлем. Узлезшы на яе вершаліну, гадзінамі назіраў за мітуснёй каля самалёта, за тым, як пасля імклівага разгону яго раптам нешта падкідвала ўверх. І вось ён, даволі смешная здалёку цацачная этажэрка, ужо ляціць, злёгку памахваючы крыламі, потым як бы прытуляецца да неабсяжнага мора зялёных вершалін і выпускае серабрыстых пасак атруты. Атрута тая ліпе рады адразу не дала, дрэва, у адрозненне ад не такіх шляхетных вольхаў, бяроз ды лазняку, выстаяла, але відавочна захварэла і ўжо, колькі сышло часу, чахне — не жыве і не памірае. Падумаў, трэба б глянуць, а ці хоць цвіце, ці дае пажытак пчолам.

Каля дарогі ўсё яшчэ тырчыць загнуты ўверх рог пакарабачанага, намертва ўрослага ў дзірван жалезнага ліста. На гэтым лісце сцягвалі ў здараненным крушні валуны, на якія калісьці не паскупіўся ледавік. Гэта быў наступны этап «акультурвання ўгоддзяў». Бульдозер выкалупваў з зямлі каменне і ўскочваў на гэты ліст жалеза. Трактар валок іх да кучы, дзе ўжо другі бульдозер піхаў тую камянюку ў крушню. Зямлю тады перапаролі, нарабілі ям — ні прайсці, ні праехаць. Пасля атруты дрэвы стаялі сухія, амаль без сукоў. Зручна было нарыхтоўваць дровы. Але вывезці іх па гэтых ямах-калдобінах — праблема. Да таго ж з'явіліся і дадатковыя перашкоды: у двух месцах Жаўнераўскую дарогу перарэзалі канавы, што пракапалі пад час мацэпураўскай меліярацыі — наступны этап паляпшэння зямлі. Словам, на прыроду тады наступалі «шырокім фронтам». І чаго было меней — мазгоў ці жаласці, не скажаш.

Начальству, напэўна, думалася, што пасля ўсяго гэтага прыбавіцца зямлі, прыдатнай для гаспадарання. Але нешта пайшло зусім іначай. Перапоратая бяздушнай тэхнікай зямля малілася аб навядзенні парадку — тыя б калдобіны пазараўнять, прыбраць сухастоіны, недзе масточак зрабіць, нарэзаць палёў-лугоў. Марна малілася — ці то партыя паставіла іншую задачу, пільнейшую, ці само начальства зразумела, што ў непасільную авантуру ўпрагліся. Пакінутай сталася тая зямля, мабыць, назаўсёды. Больш за паўсотню гадоў сыйшло, а ніхто з «крэпкіх хазяйственнікаў», хоць савецкіх, хоць цяперашніх, туды «і носа не ткнуў».

Пераскокваючы праз чарговую канаву, прыгадаў, як падшыванцам акурат тут ратаваў парэзаную руку. У Жаўнераве раслі клёны, для нашых мясцін дрэва не такое і частае. Журомскія, такім было прозвішча апошніх гаспадароў, ужо з'ехалі ў тую Польшчу, і я на іхняй сядзібе прыладзіўся збіраць кляновік. Прыдумаў і просценькі спосаб: на адламаную галінку шчыльненька надзяваў бутэлечнае рыльца. Здымаеш поўную бутэльку, а на яе месца чапляеш новую. Наватарства гэта давяло, што ў адной бутэльцы рыльца адламалася, і вострая шклянка глыбака ўпілася ў далонь. Крыві, як дастаў той асколак шкла, было шмат, ды і балела моцна. Напужаўся. Акурат тут, дзе цяпер канава, цёк бойкі ручаёк талай вады. Вось ягоную плынь я «маляваў» сваёй крывёй. Часта, убачыўшы рубец на далоні, згадваю той кляновік і гэтае месца, праўда, цяпер ужо зусім не такое, як у дзяцінстве.

Ласы кавалак сенажаці знайшоў хутка. Пэўна, з-за нізінкі, у якой нават рос чарот, трактарыст, каб не траціць часу, загразшы ў торфе, відаць, не рызыкнуў заязджаць да самага краю поля. Соткі чатыры-пяць сенакосу стаяла некранутым кучным кавалкам. Праўда, «стаяла» — сказана вельмі ўмоўна, бо і звяры, і людзі, ідучы на балота, дзе ўжо паспелі чарніцы і п'яніцы, месцамі пратапталі сцежкі, ды і вецер пакруціў высокую, амаль у пояс траву. Касіць такую цяжка. Гэта на дзялцы я клаў у пакос паласу мурагу шырынёй пад два метры. Тут гэтак не разгонішся. Але і плошча пужала не вельмі, бо аднойчы, як касіў калгасную абавязалаўку, мой дзённы ўкос, па Рысевым, нашага брыгадзіра, абмеры, амаль паўгектара быў.

Сонца ўжо добра падабралася к палудню, пакуль «паваліў» тую лапіну травы. Зморан — і папіць бы чаго халодненькага ды і паесці не перашкодзіла б. Як кажуць, «каса сала просіць». Але быць побач з любімым балотам і не зайсціся, тым больш, што пільніцы, каб варочацца дадому, няма... пераадолець спакусу проста не было моцы. Падумаў, што там нейкую ягадзіну знайду, яна і смагу прагоніць, і, з'еўшы, не так будуць «кішкі марша йграць».

Людзі... яны розныя вельмі, і нават таго, што падабаецца, таксама. Некаму каля вады з вудай пасядзець, некаму сасновы бор падавай ці луг, затканы кветкавымі ўзорамі. А мне, вот і не прыгадаю, чаму і з якой пары, балота. Можа, з таго светлага дзіцячага ўспаміну пра марудную рачулачку Жэсніцу, да якой па балотных купінах прабраўся, каб дастаць белых гарлачыкаў, што яна люляла. Потым бацькі мяне з гвалтам з таго балота дабывалі, каб не ўтапіўся, баяліся. Ад той рачулкі засталася толькі меліярацыйная канава, што аддзяляе асушаную часку ад яшчэ жывога балота.

А можа, калі з маці пайшлі ў чарніцы, багульнік мне задурыў мазгі, свядомасць маю парушыў. А можа, з-за непаўторнага настрою адзіноты і назірання за зусім нязвыклымі «на сушы» раслінамі, карлікавымі, у рост чалавека, бярозкамі і сасёнкамі, якім па некалькі дзясяткаў гадоў, так і не знайшоў марошкі.

І яшчэ балота было добрым месцам выпрабавання маладых сілаў, гарту характару і цела, чаго так не хапала падлетку. Не было ў ваколіцах ні высачэзных Гімалаяў, ні бясконцых прэрыяў, дзе пасліся неаб'езджаныя мустангі, ні поўных небяспекі джунгляў Амазонкі, ні бяскрайняй, наскрозь прамерзлай тундры. Нічога такога, дзе можна было выпрабаваць сябе, акрамя балота, не было. А яно, як магло, спрыяла — і жаданню больш пазнаць прыроду, і празе да цяжкасцяў і небяспекі патурала.

Шмат гадоў бацькам не расказваў, як ледзь не загінуў. Можа, гадоў дванаццаць было, выправіўся да далёкай выспы, дзе пасля бясконцых імшыстых купін можна, падмінаючы верасовы дыван, блукаць, вывучаць хітрую сетку лісіных нор, любавацца стройнымі, не ў кожным бары такія ўбачыш, нечым падобнымі на імклівыя струны соснамі. Яны, як на падбор гонкія, стаялі, трымаючы недзе ў недасяжнай вышыні зялёную столь урачыстага храма. І цуд — такога не магло быць, але яно было! Струны гэтыя гучалі, напаўнялі прастору нейкай мелодыяй. Вушы яе не чуюць, а істота мая жыла ў гэтай музыцы, адчувала яе, трымцела ў неверагодным шчасці харастава.

Пакуль да той выспы, дык па купінах пакуляцца трэба. Але мясціны былі бяспечныя — воддаль ад «выгарак», дзе трапляюцца яміны, запоўненыя тарфяной жыжай, і цi ёсць у іх дно — невядома. Выгаркі добра відаць — там дрэваў няма, ды і ягаднік, хоць і шмат гадоў прайшло, яшчэ не ўсюды вырас.

Праблем не чакаў, але, як выйшла, расслабіўся дарэмна. У нейкі момант мох пада мной расступіўся, і я ўжо некуды ляцеў. Добра, што дрэўцы карлікавыя. Ухапіўшыся за тонкую бярозку, праваліўся толькі па грудзі. Потым, як вылез, расхінуўшы траву, ацаніў і глыбіню яміны, і гразь, што разгледзеў на дне. Што гэта было? Мабыць, Жэсніца хацела адпомсціць, што яе знішчылі, загнаўшы ў меліярацыйную канаву. Тут яна цякла, і яшчэ не ўсё русла, хоць і шмат гадоў прайшло, зарасло.

Заканчэнне на стар. 10 »

# Крыўда

## Старонкі аповесці

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

Гарадское жыццё, а можа і не яно вінавата, чалавека накрапка бярэ ў палон. Робіцца ён нечым падобны да сабакі, што прывязаны да будкі. На ланцуг, канечне, ніхто чалавека не садзіў, але свабоды ўжо няма, і свабоду тую чалавек у сябе сам забраў. Яму ўжо і выгоды пакідаць не хочацца, а часам і проста так апынуцца далёка ад дому, а раптам што якое, не адважваецца. А некаторыя зрабіліся такімі гараджанамі, што ў вёску, дзе ў дзяцінстве басанож па каравяках гойсалі, іх ужо і не дазвацца, і бэсціць-прыніжаюць сваю вёску-калыску, паходжання свайго саромеюцца — дробныя прадажныя чалавечкі. Таннымі бліскучкамі, што па сутнасці сваёй смецце, горад іх купіў, і яны лёгенька здаліся ў палон. Самахоць здаліся, і прывязаў іх горад не Бог ведае чым — хоць і маленькім, але чыстым, не параўнаць з вясковай хатай, пакойчыкам, куфлем піва з бочкі, што паставілі прама пад акном, лёгкасцю вырашэння дробных побытавых праблем, скупаватым, але пастаянным заробкам — калі не шыкаваць, дык ад палучкі да палучкі стыкаецца. Здаліся, а цяперака што… на вёску нападаюць, апраўдваючыся. Як усё роўна пра такіх прыказка: сабака брэша ад той будкі, да якой прывязаны…

Сказаць, што сам такога выпрабавання цалкам пазбег, — зманіць. Спакусы ўзніклі амаль адразу. Шыкоўны кінатэатр, што куды як розніўся і не толькі ад вясковага «чырвонага кутка», дзе «перадзьвіжка» круціла кіно, нават ад Дома культуры, што ў райцэнтры, альбо жыллё, дзе людзі не ведаюць, што такое студня, не маюць клопату, каб назапасіць дроў, недзе іх захоўваць, дзе, каб купіць бохан хлеба, не трэба ісці ў суседнюю вёску, а яшчэ і ці прывезлі, невядома. Ды што казаць, дзе не крані — горад ёсць горад.

Вот узяць гарадскі транспарт, пра які ў вёсцы нават уявіць было нельга, — куды трэба, хуценька пад'ехаць можна, не дыбаючы па пыльнай вуліцы з аднаго канца вёскі ў другі. Канечне, так, што не дыхнуць, заціснуты здаравеннымі дзядзькамі, ад якіх патыхала півам і трохі шалым настроем канца чарговага працоўнага дня, іншы раз гатоў быў выйсці і пешшу шыбаваць за аўтобусам 36-га маршрута. Але ні разу не выйшаў — дыхаў горадам, яднаўся з яго жыхарамі.

Праўда, калі пра сябе, дык была і розніца. Не перадаваўся настрой тых задаволеных жыццём і півам «рабацяг», цікавіла іншае. Глядзеў праз акно на вузенькую Нямігу, па якой між старадаўняй забудовы шчаміўся той аўтобус, здавалася, трушчэлі косткі, калі, не ўтрымаўшыся, навалілася нейкая цётка. Гэта ЛАЗік, легенда савецкай аўтобуснай вытворчасці, рэзка звярнуў улева і, натужна равучы, напаўняючы сваё нутро гарачынёй ад рухавіка, пахам мазуты ўперамешку з дымам, пачаў узбірацца на пагурак Ракаўскага прадмесця. «Шпалерная фабрыка, вуліца Калгасная, вуліца Саўгасная», — час ад часу аб'яўляў прыпынкі хрыпаты дынамік.

Тады вой як цікава было чуць расказы, што пад вуліцай недзе па трубах цячэ летапісная рэчка Няміга, здзіўлялі маленькія крамы: «Гузікі», «Ніткі», вузенькія ходнікі, дзе людзі пры набліжэнні аўтобуса туліліся спіной да дамоў. Тады ўчарашняга вясковага падшыванца гэта здзіўляла. Здзіўляла і толькі. Сапраўднае разуменне каштоўнасці таго кавалачка горада з'явілася куды як пазней, калі ні крамаў тых, ні дамоў, ні знаку, дзе пад вуліцай тая Няміга, ужо не было. Калі Петрапаўлаўская царква — храм, што калісьці панаваў над непаўторным кактэйлем старажытнай каменна-драўлянай архітэктуры, зробіцца амаль пляскатай, паніклай, як жабрак у чаканні падаянкі, што ці то ад гора, ці то ад сораму за людзей, якія яго гэтак прынізілі, баіцца падняць вочы. Не, не баіцца, проста не хоча бачыць гэтыя часовыя гмахі, што па волі людзей прыйшлі на змену вечнасці. Ён ведае — пройдзе час, і іх не стане, а ён будзе. Можа, і разбураць, скапаюць, як замчышча ля цяперашняга Дома фізкультуры, але ўсё роўна будзе. Пра гмах, дзе цяпер крама «На Нямізе», як знясуць, забудуцца амаль адразу, а пра яго будуць памятаць вечна. Бо ён тут законны, бо тут ягонае, не іхняе месца, ягоны дом…

Гэта жыццё, гэта асяроддзе, дзе ў неверагодны свет, вельмі своеасаблівы і ў нечым чароўны, спрасавана гісторыя, час, падзеі, людзі, захапляла, авалодвала, наравіла запаланіць і ніколі ўжо не адпусціць на волю. Хацелася глыбей даць нырца ў гэта асяроддзе, з'яднацца з ім, жыць у ім, спазнаючы ягоныя таямніцы, забыўшыся пра тое, што пакінуў дома, што яшчэ ўчора было часткай тваёй істоты, пра тое, чаму ты абавязаны сваім існаваннем.

Справа прамільгнуў толькі выбудаваны Палац спорту, і аўтобус пакаціўся па новай, шырокай і роўненькай вуліцы аж да Камсамольскага возера. Тут злева, зноў жа на пагурку, пасёлак «сляпых»: дамы, пабудаваныя, кажуць, палоннымі немцамі. «Сляпых» — гэта толькі назва, арыенцір. Ці то з часам пасёлак павялічыўся, ці так і адразу было, але сярод як з аднаго гнязда аднолькавых двухпавярховікаў былі дамы, што да таварыства сляпых ніякага дачынення не мелі.

У адным з такіх дамоў меў пакой бацькаў стрыечны брат Лёня. Ён, жонка ды дзве дачкі — мнагавата, але жытло, страха над галавой. Пад кухню — асобны, маленькі пакойчык, праўда, на тры сям'і, дзе керагазы ды шафэчкі для посуду. Жыць можна, і вёсцы да такой «жызьні» далёка-далёка.

Дзядзька мой з таго «прызыву» сельскай моладзі, якую ў пяцідзясятыя падняла нейкая сіла і панесла ў свет. Сіла? Не — хутчэй нядоля, замешаная на маладым жаданні самасцвярджэння. Пазбавіўшы людзей зямлі і пасадзіўшы на віртуальны спажытак у выглядзе калгасных працадзён, вяскоўцаў абрынулі ў становішча, калі яны не маглі на пакінутых каля хаты сотках нават пракарміць дзяцей. Дзяцей, якія нарадзіліся пры дастатку, яшчэ калі была свая гаспадарка, якія ўжо выраслі. Дастатак, вядома, быў розны, але ў кожнага ў катуху не зводзілася бульба, было з чаго спячы хлеб, і кароўка паіла малаком. І цяпер моладзь, што мусіла ісці ў калгас, а куды яшчэ, магла працаваць і, вядома, зарабіць на кавалак хлеба. Працаваць то яны маглі — не праблема, але не маглі таго кавалка хлеба чакаць да канца года, калі пачнецца выдача на працадні, бо есці трэба штодня. Можа, не так і рамантыка, як голад, — прычына таму, што рынуліся маладыя ў гарады, як Шчановічаў Славусь, завербаваліся «на шахты», як Аньцеччын Збышак, асвойвалі цаліну, як Вархаповічаў Чэсь, лавілі рыбу і рабілі кансервы на плавучых заводах недзе аж у Ціхім акіяне, як родны бацькаў брат Владзя, на звыштэрміновай служылі Радзіме на Чукотках-Камчатках… Словам, шукалі ратунку. І тут не да жартаў — сапраўды ратунку.

Сям'я, з якой быў мой дзядзька, мела чацвёра дзяцей, трое з якіх апынуліся ў Мінску. І дзядзька мой, працуючы на мінскіх будоўлях, дарэчы, ганарыўся, што будаваў і Палац спорту, лічыў сябе нават шчаслівым. Во, ёсць хоць нейкае жытло і жывыя грошы, невялікія, але ж штомесяц нешта плацяць.

Калі паступіў у інстытут, інтэрната не далі. На першых парах бацька, пакуль знайшлася сталая кватэра, прыстроіў да дзядзькі. Там, на вуліцы Гвардзейскай, я пачаў здавацца ў палон гораду. І, можа, здаўся б, як шмат хто з маіх аднавяскоўцаў, што пакінулі вёску.

Стары горад, ад якога веяла гісторыяй… Адна назва рэчкі Няміга, што згадвалася ў старажытным летапісе, рабіла ўчарашняга вясковага хлопца быццам бы саўдзельнікам той гісторыі. Ішоў па вуліцы і ўяўляў амаль тысячагадовай даўнасці «крывавыя берагі», быццам бачыў, істотай сваёй адчуваў прысутнасць душ, што калісьці адвеялі ад цел незлічоных ворагаў і абаронцаў старажытнага горада. Уражваў Дом урада, праспект, які пачынаўся паштамтам — будынкам, аздобленым незлічонай колькасцю дэталяў дэкора, якіх, здавалася, не хопіць жыцця, каб толькі разгледзець. Горад, вабны, зусім нязвычны, загадкавы і прыветны, паглынаў. І, напэўна, паглынуў бы. Рэдка хто з маіх сяброў, трапіўшы ў горад, вярнуўся дадому. А чым я адрозны ад іх?

А вот выйшла, што і адрозніваюся. Можа, бацькі такую натуру выхавалі, а можа, неяк само з генамі ад — і не згадаеш якіх — далёкіх пращчураў, перадалося. Толькі падчас летняга адпачынку не мог гэтак, як большасць сяброў, ехаць на мора. Была нейкая патрэба, неўзаконены абавязак: трэба дадому, хоць чым дапамагчы бацькам. І ехаў, некалі сам сабе бурчэў пра дурную ахвярнасць, пра страчаныя магчымасці, шкадуючы, што нават ужо ў сталым узросце ні разу не бачыў ні мора, ні гор. Ехаў, разумеючы, што потым, як пасля адпачынку збяруцца сябры, будуць расказваць пра далёкія мясціны, прыгоды, я буду няёмка адмоўчвацца, бо каму цікавая вясковая праца, замешаная на поце і надаедлівым камар'і? Вот таёжная «машка́» — зусім іншая справа.

Толькі цяпер на схіле гадоў разумею, якую велізарную перавагу я маю ў параўнанні з тымі сябрамі. Як шалупень, з гадамі адваляцца, патануць у нетрах памяці і тыя прыгоды, і відарысы далёкіх краін, а што замест іх? Ганяючыся за той экзотыкай, шмат хто парваў повязь са сваім, спрадвечным, і гэтае сваё стала для іх чужым, незразумелым, гэтакім жа экзатычным, як калісьці Каўказскія горы ці напаўдзікі побыт мясцовых жыхароў каля якога-небудзь Ісык-Куля. І ніяк ужо тую повязь не аднавіш — не звяжаш канцы парванай вяроўкі, што намертва ўраслі, затапталіся ў дзесяцігоддзямі някошаным бур'яне.

Мне было куды як лягчэй. Пакуль жылі бацькі, штогод, бывала, і па некалькі разоў рабіўся вяскоўцам, самым сапраўдным. Не паспявалі мае рукі адвыкнуць ад вясковых прыладаў працы, не забываліся знаёмыя з дзяцінства сцежкі, жыў штодзённым клопатам сваіх землякоў, бачыў тады яшчэ жывых суседзяў, размаўляў з імі, слухаў іхнія аповеды пра далёкую мінуўшчыну, пра першую сусветную вайну, пра жыццё ў панскай Польшчы, здзіўляўся трапным ацэнкам таго, што робіцца цяпер, і «прагнозам», чым усё гэта скончыцца…

…Сотня-другая метраў, і вось шлюз, што перагароджвае «цэнтральны канал». Ён атрымаў у спадчыну ваду рачулкі Жэсніца. Але ўдалым спадкаемцам яго не назавеш: вада па прамому, як струністы шнур цесляра, руслу хуценька збягае ў далёкую Сэрвач-Вяллю, і яе на самым дне, зарослым чаротам ды чэзлай асакой, лічы, і няма. Толькі ўдалечыні, у бок возера падпертая бабровай плацінай канава поўненькая. Нават і не падумаў, што ад гэтага карысць, што бабры хоць крыху будуць ратаваць тую, неасушаную частку балота — за канавай. На той момант узрадаваўся, што гэтыя звяркі, пра якіх некалі чытаў у Маўравых «Палескіх рабінзонах», з'явіліся і ў нас.



Фота Паўла МАРЦІНЧЫКА

## Зямлячка

*Аб стварэнні вядомай песні «Ах, Одесса, жемчужина у моря…» існуе нямала легендаў. Кажуць, што ў 1936 годзе малады кампазітар Мадэст Табачнікаў прыйшоў у рэстаран гасцініцы «Лонданская» адведаць сваіх сяброў-музыкаў, якія «лабалі» ў гэтай установе, і пакуль сябры агучвалі нейкую мелодыю, Табачнікаў цярпліва іх чакаў — і пачаў накідваць на сурвэтцы ноты будучай песні. Затым сябры паспрабавалі ўсё найграць, а хтосьці «выпаліў» словы: «Ах, Одесса, жемчужина у моря…». А далей, мабыць, як гэта не раз здаралася з народнымі песнямі, кожны «дамарослы» паэт падстаўляў пад музыку свой куплет…*

*А вось перад намі згадкі аб той песні маёй зямлячкі — Лідзіі Іванаўны Касачук (Карпук па бацьку), якая жыве ў Брэсце.*

*Пазнаёміўся з ёю гадоў з пятнаццаць таму ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна на прэзентацыі кнігі брэсцкага аўтара. З таго часу ў нас добрыя адносіны — як у сапраўдных землякоў…*

*Лідзія Іванаўна нарадзілася 22 лістапада 1941 года на хутары Краснік (ля вёскі Глінянкі) Кобрынскага раёна. У вайну яе бацькі (Сцепаніда Афанасьеўна Касьянюк з вёскі Падлессе і Іван Фёдаравіч Карпук) былі расстраляныя ў вёсцы Андронава, непадалёк ад Кобрына, калі ранкам ехалі на падводзе ў горад на кірмаш… Стралялі маладыя паліцаі з мясцовых (адзін з іх у свой час няўдала сватаўся да Сцепаніды Касьянюк). Гэта здарылася 8 лютага 1942 года. Маці ішоў тады 22-і год, а бацьку — 25-ы. Пахаваныя яны былі ў Тэўлях.*

*На другі дзень пасля пахавання бацькоў Ліду забрала бабуля Агрыпіна Сямёнаўна Касьянюк, 42-гадовая ўдава, муж якой, Афанасій Сямёнавіч, у 44 годзе памёр ад сібірскай язвы. У 1949 годзе бабулю Агрыпіну арыштавалі і пасадзілі ў турму за невыкананне плана на лесанарыхтоўцы. Бабуля працавала там з малодшаю дачкой Оляй (сын Рыгор служыў у войску, а другая дачка Анюта была замужам і жыла асобна). Ёй залічылі 20 кубоў, а патрэбна было 40…*

*У красавіку 1950 года бабуля вярнулася з Гомельскага лагера, дзе чатыры гады працавала на швейнай фабрыцы. Каля пяці гадоў яна жыла адна, потым папрасіла дачку Олю з зяцем пераехаць з Мярніцы ў Стрыі (Кобрынскі раён). У цёткі Олі на той час было трое сваіх дзяцей плюс Лідзія. Некаторы час сям'я жыла ў Глінянках, куды пазней вярнуўся родны брат бацькі — Пятро Карпук, які, падлячыўшыся пасля цяжкага ранення на фронце, атрымаў пенсію і ажаніўся з суседкаю па хутары Марыяй Данілаўнай Калюховіч, з якой пражыў доўгае і шчаслівае жыццё. На схіле іх гадоў Лідзія Іванаўна ўзяла родных ёй людзей пад сваю апеку. Цётка Марыя памерла 30 сакавіка 2010-га ў 82 гады, а дзядзька Пётр — 22 сакавіка 2014-га, на 87 годзе.*

*Калгаснае жыццё Лідзію Касачук абмінула, але пастаяннага месца жыхарства не было. З часам яна скончыла Стрыгаўскую сярэднюю школу (1949—1958), потым — Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна (філалагічны факультэт, у 1964 годзе), дзе была сакратаром камітэта камсамола інстытута. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў сяле Астрамечава Брэсцкага раёна, горадзе Мукачава Закарпацкай вобласці (13 гадоў). У Брэст вярнулася з сям'ёю — мужам і трыма дзецьмі — у 1979 годзе. Працавала чатыры гады ў СШ № 5 і амаль 30 гадоў у СШ № 7 настаўніцай рускай мовы і літаратуры.*

*Лідзія Касачук друкавалася ў газетах «Заря над Бугом», «Брестский курьер», «Брестский вестник», зборніках «Справа», «Берасцейская скарбніца», «Астрамечаўскі рукапіс», «ЛітАўра». Яна з'яўляецца ўкладальніцай і рэдактаркай калектыўных зборнікаў «Натхненне» (2018), «Сіла слова» (2020) і «Читающий бульвар». Выдала тры зборнікі вершаў і прозы: «Школьный вальс» (2013), «Альбом» (2021), «Разнотравье» (2021). Кіруе літаратурным клубам «Літара» пры Брэсцкім гарадскім цэнтры культуры.*

*І… застаецца невядомай аўтаркай вядомай песні «Ах, Одесса, жемчужина у моря…», аб чым і распавядае ў гэтай згадцы…*

***Лявон ВАЛАСЮК***

# «Ах, Адэса…»

Лідзія КАСАЧУК

Учора глядзела расійскую тэлеперадачу «Тры акорды». Спяваюць артысты тэатра і кіно, вядомыя ўсяму народу імёны. І вось загучала нешта да болю знаёмае, роднае. Першыя гукі як бы знутры мяне. Вось-вось будуць словы. **Мае** словы.

*Ах, Одесса, жемчужина у моря,*
*Ах, Одесса, ты знала много горя,*
*Ах, Одесса, родной любимый край,*
*Живи, моя Одесса, живи и расцветай.*

Забіяцкая, пранікнёная мелодыя. Падтанцоўка, карцінкі жыцця любімага горада. Геніяльны голас Матвейчука выклікае неверагодныя эмоцыі. Гром апладысментаў. У журы ідуць успаміны аб тым, як захоплена ўспрымалася выкананне песні ў рэстаранах па ўсім Саюзе — ад Магадана і да Камчаткі — у далёкія 70-я.

Імёны аўтараў песні не называюцца.

Песня народная.

Яна жыве і захапляе, выклікаючы радасць і слёзы.

А нарадзілася яна, усенародна любімая, так.

…Вясна. Закарпацце. Школа № 8. Я, у той час завуч, іду на ўрок спеваў да настаўніка музыкі Антона Антонавіча Кізмана. Ён сустракае мяне ў калідоры і, крыху бянтэжачыся, падае сшытак, дакладней, вокладку ад арыфметычнага сшытка, дзе напісаны словы.

— Лідзія Іванаўна, я ведаю, што вы, настаўнік літаратуры, нешта пішаце. Дапамажыце мне, калі ласка. Я вось тут нешта накрапаў, але ў мяне нічога не выходзіць. Я ж па-руску дрэнна думаю, вугорац. Вось спрабаваў… А мне патрэбна песня пра Адэсу. Мы з ансамблем едзем туды ўлетку на конкурс. Музыку я напісаў. Паслухайце, калі ласка…

Мы ўваходзім у клас, і Антон Антонавіч садзіцца за піяніна. Іграе. Мелодыя мяне захапіла, і я абяцаю паглядзець яго вершы.

Звініць званок. Настаўнік пачынае ўрок. Я на задняй парце. У журнал наведвання і кантролю (велізарны тоўсты талмуд) запісваю тэму ўрока, мэту наведвання, дату і г. д.

Раскрываю дадзены мне лісток — вокладку зялёнага колеру, учытваюся ў напісанае і разумею, што тэксту не атрымалася.

Перакрэсліваю крыж-накрыж «тэкст» і побач запісваю першы радок прыпева:

*Ах, Одесса — жемчужина у моря,*
*Ах, Одесса, ты знала много горя…*

Радок абрываецца. Рыфма «гора» ў вясёлай песні мне не падабаецца, але нічога іншага не прыходзіць на розум. Добра, няхай застаецца. А мелодыя, якая запомнілася, патрабуе працягу.

*Ах, Одесса…*

У галаве круцяцца нейкія словы, збіраючыся ў нешта асэнсаванае:

*Ах, Одесса, родной любимый край,*
*Живи, моя Одесса, живи и расцветай!*

Добра. Падобна, прыпеў атрымаўся. Запішам.

Добра было б яго разнастаіць. Не паўтараць жа гэтае «гора» ў гуллівай мелодыі…

*Ах, Одесса — жемчужина у моря!*
*Ах, Одесса, здесь волны с ветром спорят…*
*Ах, Одесса, нет в мире краше места.*
*Ах, Одесса, не город, а невеста…*
*Ах, Одесса, родной любимый край.*
*Живи, моя Одесса, живи и расцветай.*

Добра. Тры нарыхтоўкі на тры куплеты. Цяпер пра саму Адэсу…

Што я ведаю? Тое, што ёсць у песнях Уцёсава, кінафільмах: «самое синее в мире Чёрное море моё…», маракі, рыбакі, Адэса-мама…

А трэба неяк па-іншаму, але не горш, чым ужо сказана.

Людзі…

*На свете есть такой народ,*
*Он весело живёт.*
*Прекрасный дружный наш народ*
*Танцует и поёт.*
*Кого вы ни спросите, ответят одесситы:*
*Такими уж нас мама родила.*

…Мінулым летам мы ўсёй сям'ёй былі ў Адэсе, адпачывалі ў Затоцы.

Успамінаю…

Не чую ні ўрока, ні вучняў, якія адказваюць, ні настаўніка. Добра, не спяваюць, не перабіваецца мелодыя, якая запомнілася. Перада мной Адэса, мора. Бачу людзей, вуліцы…

Успамінаю… Гарадскі аўтобус. Таблічка, на якой звычайна бывае пагроза штрафу безбілетнікам: «Кошт квітка 20 кап. Праезд без білета — 3 рублі».

Вось ён — вясёлы народ, разумны і безжурботны, як у песні пра Косцю-марака і страшны рып чаравікаў на вяселлі.

Радкі ўзнікаюць як пад нечую дыктоўку. Гучыць мелодыя…

Пачатак, прыпеў, расказ пра людзей, маяк, матросы, настрой… Адэса-мама, горад-свята…

*В Одессе есть большой маяк,*
*Он светит всем всегда.*
*Он говорит: «Постой, моряк,*
*Зайди-ка ты сюда.*
*Здесь двери все открыты,*
*Бокалы всем налиты,*
*И девушки танцуют до утра».*

Усё быццам склалася. А ўступ? Зачын?

Успамінаю. Мы плывём на цеплаходзе. Экскурсія ў Белгарад-Днястроўскі. Мора. Азіраюся на горад.

*Плывут туманы над водой,*
*Покрыты бирюзой.*
*Стоит у моря предо мной*
*Одесса — город мой.*
*Он с песнями встречает,*
*Он с песней провожает,*
*Одесса-мама — милый город мой.*

Падобна, усё ёсць. Стаўлю лічбы на парадак куплетаў.

Канец урока. Званок.

З адчуваннем чалавека, які вынырнуў на сушу з марской прахалоды, я аддаю сваё сачыненне кампазітару.

Ён чытае, напявае, дзякуе…

Яму ў той час ледзь мінула дваццаць, ён скончыў Мукачаўскую педагагічную вучэльню і ў школе ў нас нядаўна.

У рэстаране «Зара», што побач са школай (адзіны комплекс будынкаў па вуліцы Міра), Антон Кізман кіраваў вакальна-інструментальным ансамблем.

— Лідзія Іванаўна, я запішу вас як аўтара слоў песні.

— Не трэба, Антон Антонавіч. Я дару вам гэты тэкст. Выступайце ў Адэсе, перамагайце, будзьце шчаслівыя.

Мне ў той час здавалася такім нязначным маё «тварэнне».

Хто ведаў, што яму прыгатаваны шчаслівы лёс стаць, як цяпер кажуць, шлягерам.

…У 1979 годзе наша сям'я пераехала ў Брэст… Увосень таго ж года ў рэстаране «Брэст» на банкеце з нагоды юбілею сястры Соні я была агаломшаная зноў пачутай знаёмай мелодыяй і танчыла пад яе з найвялікшым натхненнем.

Песня А. А. Кізмана пайшла па краіне, цешачы людзей.



## Міжнародная прэмія імя Івана ФРАНКА

У 169-ю гадавіну з дня нараджэння Івана Франка адбылася 9-я ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэата Міжнароднай прэміі імя Івана Франка. Лаўрэатам стаў Андрэй Даніленка, украінска-амерыканскі філолаг, кандыдат філалагічных навук, доктар філасофіі, прафесар кафедры сучасных моў і культур Універсітэта Пэйс (Нью-Ёрк). Прэмія, як вызначылі 12 членаў міжнароднага журы з Аўстрыі, Славакіі і Украіны, была прысуджана за манаграфію «Від Біблії до Шекспіра. Пантелеймон Куліш і формування української літературної мови».




Падчас уганаравання лаўрэата дырэктар Міжнароднага фонда Івана Франка Ігар Курус адзначыў, што, акрамя грашовай прэміі ў памеры 275 тысяч грыўняў, лаўрэат прэміі атрымаў медаль і дыплом.

У 2025 годзе на Міжнародную прэмію было намінавана 13 манаграфій навукоўцаў з 3 краін: Польшчы, Амерыкі і Украіны.

Міжнародная прэмія імя Івана Франка была заснавана ўнукам вялікага ўкраінца Роландам Франкам. Найвышэйшая ўзнагарода ў галіне гуманітарных даследаванняў прысуджаецца штогод з 2016 года.

## Прэмія Васіля СТУСА-2025

Сёлета ўзнагароду атрымаў амерыканскі гісторык і пісьменнік Цімаці Снайдэр.

Прэмія імя Васіля Стуса штогод уручаецца аўтарам за выдатны ўнёсак ва ўкраінскую культуру і нязменную грамадзянскую пазіцыю, незалежна ад месца іх пражывання. У 2025 годзе прэмія была ўручана ў 36-ы раз, і з моманту яе заснавання лаўрэатамі сталі больш за 70 творцаў.

Цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Кіеве.

Цімаці Снайдэр вядомы сваімі даследаваннямі гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у тым ліку Украіны і Беларусі, а таксама гісторыі СССР і Халакосту. У Беларусі лаўрэат вядомы працамі «Крывавыя землі: Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным» (пераклад з англійскай С. Петрыкевіча, Мінск: Зміцер Колас, 2015), а таксама «Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь (1569—1999 гг.)», дзе, паводле Уладзіміра Арлова і Захара Шыбекі, Цімаці Снайдэр паказаў вытокі гістарыяграфічных міфаў, у тым ліку і тое, што літоўскі нацыянальны праект пабудаваны на скажэнні гісторыі, а цаной яго рэалізацыі было разбурэнне ўнікальнай культурнай прасторы з цэнтрам у Вільні.




«Цімаці Снайдэр сёння — адзін з самых моцных галасоў у свеце ў падтрымку Украіны. Гэтая падтрымка грунтуецца на яго перакананні, што тыраніі трэба рашуча супраціўляцца. Для Снайдэра прыкладам такога супраціву з'яўляюцца дысідэнты Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у тым ліку Украіны, і, вядома ж, Васіль Стус сярод іх. Гэтая ўзнагарода таксама з'яўляецца знакам таго, наколькі Украіна шануе голас Снайдэра ў нашу падтрымку», — сказаў Уладзімір Ярмоленка, прэзідэнт украінскага ПЭН-клуба і старшыня журы прэміі.

Прэмія імя Васіля Стуса — адна з найстарэйшых украінскіх прэмій у галіне культуры. Яна была заснавана ў 1989 годзе Украінскай асацыяцыяй незалежнай творчай інтэлігенцыі на чале з Яўгенам Сверсцюком. З 2016 года ініцыятыву працягваюць Украінскі ПЭН, Кіева-Магілянская бізнэс-школа і выдавецтва «Дух і Літара».

## Зварот Вольгі ТАКАРЧУК

Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры Вольга Такарчук звярнулася з адкрытым лістом да пісьменнікаў усяго свету падчас 91-га Міжнароднага ПЭН-кангрэса ў Кракаве. У ім яна заклікала аўтараў, агентаў і выдаўцоў наведаць Украіну, правесці там сустрэчы з чытачамі і падтрымаць украінскае літаратурнае жыццё, якое актыўна развіваецца, нягледзячы на вайну. У звароце, апублікаваным у Facebook, Вольга Такарчук падкрэсліла, што кніжны рынак ва Украіне ўжо аднавіўся да даваеннага ўзроўню і мае ўсе шанцы перасягнуць яго. Гэта, паводле яе слоў, сведчыць пра асаблівую ролю чытання ў часы вайны, крызісу і нявызначанасці. «Літаратура ў часы вайны вяртаецца да сваіх асноў: яна становіцца глыбокім спосабам зносін з іншымі і з культурай, дапамагае знайсці сэнс, украняе нас у жыцці і адначасова дазваляе нам адарвацца ад траўматычнага вопыту», — адзначыла пісьменніца. Нягледзячы на адраджэнне ўкраінскага культурнага жыцця, візіты замежных аўтараў сталі значна радзейшымі. Такарчук падкрэсліла, што кожная такая сустрэча мае асаблівае значэнне: «Кожны візіт замежных пісьменнікаў асабліва каштоўны і заўважаецца. Гэта элемент барацьбы за нармальнасць, доказ салідарнасці і падтрымкі, а таксама эфектыўная зброя супраць прапаганды, хлусні і спроб знішчэння культуры агрэсарам». «Мы заклікаем аўтараў, агентаў і выдаўцоў з усяго свету планаваць сустрэчы ва Украіне. Ваша прысутнасць, словы, якія вы кажаце на месцы, тэксты, якія вы чытаеце, могуць мець значна большае значэнне, чым сімвалічныя жэсты падтрымкі здалёк», — гаворыцца ў лісце. Пісьменніца разам з членамі свайго Фонда звярнулася да сусветнай літаратурнай супольнасці асабіста пазнаёміцца з украінскімі чытачамі — людзьмі, якія «суцішаюць сірэны трывогі, чытаючы вашыя кнігі». Ліст заканчваецца словамі: «Да сустрэчы ва Украіне!»



Нядаўна польская пісьменніца, лаўрэатка Міжнароднай Букераўскай і Нобелеўскай прэмій Вольга Такарчук была абраная віцэ-прэзідэнтам Міжнароднага ПЭН-клуба. Пра гэта было абвешчана на афіцыйным сайце арганізацыі. «Сваім магутным голасам і творамі, якія захапілі чытачоў ва ўсім свеце, яна паказала, як гісторыі могуць пераадольваць межы, — адзначыў Бурхан Сонмез, курдскі пісьменнік з Турцыі і прэзідэнт Міжнароднага ПЭН-клуба. — У той час, калі літаратура заклікана супрацьстаяць вайне, кліматычнаму крызісу, цэнзуры і дэзінфармацыі, яе прысутнасць у нашым савеце ўмацоўвае нашу місію абараняць свабоду выказвання меркаванняў і ўяўляць сабе больш справядлівы і гуманны свет».

Прызначэнне Вольгі Такарчук было абвешчана падчас 91-га кангрэса Міжнароднага ПЭН-клуба, які адбыўся ў Кракаве (Польшча). Сярод іншых віцэ-прэзідэнтаў арганізацыі — Святлана Алексіевіч, Маргарэт Этвуд, Архан Памук і іншыя пісьменнікі.

## Суд адносна штучнага інтэлекту

Група пісьменнікаў звярнулася ў суд за «навучанне» штучнага інтэлекту на іх кнігах.

У ЗША кампанію «Apple» абвінавацілі ў незаконным навучанні штучнага інтэлекту на кнігах, абароненых аўтарскім правам.

Пісьменнікі Грэдзі Хендрыкс і Джэніфер Роберсан падалі калектыўны пазоў у федэральны суд Паўночнай Каліфорніі. Яны сцвярджаюць, што «Apple» капіявала абароненыя творы без згоды аўтараў, указання аўтарства і выплаты кампенсацыі.

У пазове адзначаецца, што кампанія выкарыстоўвала вядомую базу дадзеных пірацкіх кніг для навучання сваіх вялікіх моўных мадэляў пад назвай «OpenELM».

«Apple» і адвакаты пазоўнікаў пакуль не каментуюць сітуацыю. Гэта не адзіны такі выпадак: буйныя тэхналагічныя кампаніі ўсё часцей абвінавачваюць у ігнараванні аўтарскіх правоў пры навучанні штучнага інтэлекту. Нядаўна стартап па штучным інтэлекце «Anthropic», які стварыў чат-бота Claude, заплаціў 1,5 мільярда долараў за такое ж парушэнне. Супраць «Microsoft», «Meta» і «OpenAI» таксама падалі ў суд за выкарыстанне чужых кніг і артыкулаў.

## Талібы і забароны кніг

Групоўка «Талібан», якая захапіла ўладу ў Афганістане, выключыла кнігі, напісаныя жанчынамі, з універсітэцкіх праграм.

Каля 140 кніг, напісаных жанчынамі, у тым ліку такія, як «Бяспека ў хімічнай лабараторыі», былі сярод 680 кніг, прызнаных «выклікаючымі заклапочанасць» з-за іх «антышарыяцкай і антыталібанскай палітыкі».

Універсітэтам таксама паведамілі, што ім больш не дазваляецца выкладаць 18 прадметаў, а прадстаўнік «Талібана» заявіў, што гэта «супрацьстаіць прынцыпам шарыяту і палітыцы сістэмы».

Гэты ўказ — апошні ў серыі абмежаванняў, якія «Талібан» увёў з моманту вяртання да ўлады чатыры гады таму. Толькі за мінулы месяц валаконна-аптычны інтэрнэт быў забаронены як мінімум у 10 правінцыях па загадзе вярхоўнага лідара «Талібана», што, па словах чыноўнікаў, накіравана на стрымліванне амаральнасці. Хоць гэтыя правілы паўплывалі на многія аспекты жыцця, жанчыны і дзяўчынкі пацярпелі асабліва моцна: ім забаронена атрымліваць адукацыю пасля шостага класа, а адзін з іх апошніх шляхоў да далейшай адукацыі быў адрэзаны ў канцы 2024 года, калі былі зачыненыя курсы акушэрства.

Цяпер талібы нацэліліся на ўніверсітэцкія прадметы, прысвечаныя жанчынам: 6 з 18 забароненых прадметаў прысвечаны менавіта жанчынам, у тым ліку «Гендэр і развіццё», «Роля жанчын у камунікацыі» і «Жаночая сацыялогія».

Закія Адэлі, былая намесніца міністра юстыцыі да вяртання талібаў і адна з аўтарак, чые кнігі былі забароненыя, не была здзіўлена гэтым крокам. «Улічваючы менталітэт і палітыку талібаў, цалкам натуральна, што калі самім жанчынам не дазваляецца вучыцца, іх погляды, ідэі і працы таксама падаўляюцца», — сказала яна.

Намеснік дырэктара па акадэмічных пытаннях Міністэрства вышэйшай адукацыі талібаў Зіаур Рахман Ар'юбі ў лісце да ўніверсітэтаў абвясціў, што рашэнне было прынята групай «рэлігійных навукоўцаў і экспертаў».

Акрамя кніг, напісаных жанчынамі, забарона, відаць, закранула кнігі іранскіх аўтараў або выдаўцоў. Адзін з членаў экспертнай групы па кнігах заявіў BBC, што ўсё робіцца, каб «прадухіліць іранскі кантэнт» у афганскай навучальнай праграме.

У 50-старонкавым спісе, разасланым ва ўсе афганскія ўніверсітэты, пералічана 679 назваў, 310 з якіх альбо напісаны іранскімі пісьменнікамі, альбо апублікаваны ў Іране. Але прафесар адной з устаноў, які папрасіў застацца ананімным, баіцца, што запоўніць прабел будзе практычна немагчыма. «Кнігі іранскіх аўтараў і перакладчыкаў служаць галоўнай сувяззю паміж афганскімі ўніверсітэтамі і сусветнай акадэмічнай супольнасцю. Іх выдаленне стварае значную пустэчу ў вышэйшай адукацыі», — сказаў ён. Прафесар Кабульскага ўніверсітэта заявіў BBC, што ў такіх абставінах яны вымушаны рыхтаваць уласныя раздзелы падручнікаў, улічваючы правілы, устаноўленыя ўрадам «Талібана». Але незразумела, ці можна падрыхтаваць гэтыя тэмы ў адпаведнасці з сусветнымі стандартамі.

## Прыгоды «Прыгодаў добрага салдата Швейка»

У часе разбору і апрацоўкі матэрыялаў выдаўца Карла Сынэка ў архіве Нацыянальнага літаратурнага музея ў Празе знойдзена частка рукапісу рамана Яраслава Гашэка «Прыгоды добрага салдата Швейка падчас сусветнай вайны (Osudy dobrého vojáka Švejka za světové války)». Пра гэта стала вядома пасля заявы дырэктара музея Міхала Стэгліка.

Знойдзены матэрыял уключае фрагмент другой часткі, усю трэцюю частку і фрагмент чацвёртай часткі рамана, якія Яраслаў Гашэк напісаў ці надыктаваў у апошні перыяд свайго жыцця. Рукапіс праляжаў у архіве без увагі даследнікаў амаль 90 гадоў. «З першага погляду незразумела, ці ёсць у рукапісе нейкія нявыдадзеныя фрагменты. Пра гэта даведаемся пры далейшай працы: рэстаўрацыі, абличбоўка. Але, несумненна, будзе надзвычай цікава параўнаць рукапіс з тым, што было пасля апублікавана, асабліва што да трэцяга і недапісанага чацвёртага тома», — адзначыў Міхал Стэглік.

## Кінг і Трамп

Вядомы пісьменнік Стывен Кінг назваў прэзідэнта ЗША Трампа ідыётам. Амерыканскі аўтар заявіў, што яго турбуе адзін магчымы «жахлівы» сцэнар, пры якім Дональд Трамп застанецца прэзідэнтам ЗША на трэці тэрмін. Кінг распавёў пра гэта ў інтэрв'ю MSNBC. «Найгоршае, што я магу сабе ўявіць, гэта тое, што ён застанецца на трэці тэрмін, бо ён ідыёт, ці не так? Ён нават чытае [кнігі]. Я не хачу выкарыстоўваць слова «вар'ят», бо я так не думаю, але ён, безумоўна, небяспечны», — сказаў Кінг.

У жніўні ў інтэрв'ю «The Guardian» Кінг заявіў, што лічыць імпічмент «добрым канцом» для Трампа. Тады ён таксама сказаў, што найгоршым сцэнарыем будзе тое, што Трамп застанецца прэзідэнтам ЗША пасля свайго другога тэрміну.


Адрас электроннай пошты:
litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.